незалежная газета

№ 17 (711) 4 мая 2011 www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады



**Працэс Саннікава**

Старонка 5



**Аляксандр Баганёў: Хачу забыцца, што служыў у КДБ**

Старонка 12



«Каб сонца засланіць, вушэй аслiных мала».

# Улады хочуць зачыніць «Нашу Ніву»

Рэдакцыйны зварот да чытачоў.

На мінулым тыдні Міністэрства інфармацыі падало ў Вышэйшы гаспадарчы суд пазоў на ліквідацыю «Нашай Нівы» і «Народнай Волі». Фармальнай падставай было тое, што выданні маюць папярэджанні ад Мінінфа.

Звяртае ўвагу, што зачыняюць адразу два выданні, прычым вельмі розныя. Чаму? «Нашу Ніву» і «Народную Волю» лучыць тое, што гэтыя газеты ў 2008 годзе, пасля трох гадоў існавання ў паўпадполлі, разам вярнуліся ў афіцыйны распаўсюд праз «Белсаюздрук» і «Белпошту». Такое было патрабаванне Еўрасаюза ўзамен за нармалізацыю адносін. Менавіта дзве гэтыя газеты былі ў пакеце 2008 года.

Калі б сёння вялося толькі пра запалохванне грамадства або абмежаванне свабоды слова, ці калі б гэта была чыясьці асабістая помста, то маглі б зачыніць адну ці тры газеты. А тут менавіта дзве — прычым без аніякай прычыны.

Значыць, гэта сігнал Еўрасаюзу і Расіі. Звяртаем увагу і на тое, што адначасова з забаронай знакавых выданняў (27 красавіка Мінінфа заявіла, што ініцыявала яе 25-га) прагучалі выказванні Лукашэнкі на адрас Барозу. І адначасова Расія ўжо больш за месяц марудзіць з выдзяленнем крэдыту.

Такім чынам, «Нашу Ніву» і «Народную Волю» паклалі на ахвярнік геапалітычнага гандлю. Як і палітвязні, СМІ сталі закладнікамі.

Аляксандр Лукашэнка зрабіў грамадства разменнай манетай у сваёй барацьбе за ўладу. Хачу — адкрыю, хачу — закрыю, хачу — пасаджу, хачу — выпушчу.

Віна «Нашай Нівы» і ў тым, што яна не хісталася разам з «генеральнай лініяй улады». Ідэйна «НН» заставалася такой і ў 2001, і ў 2006 гадах. Відаць, справы ў эканоміцы кепскія, раз улады баяцца ўжо і «Нашай Нівы».

«НН» за стагадовую гісторыю перажыла розных ганіцеляў. І напрошваюцца нярадасныя для цяперашніх уладаў супастаўленні з царскім самадзяржаўем, якое душыла «НН» у пачатку XX ст.

**Працяг на старонцы 2.**

### Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю. **Старонка 2.**

### У нумары

# Улады хочуць зачыніць «НН»

Працяг са старонкі 1.

Мы не першыя, каго зачыняюць. Але цяперашні накат — асаблівы. Зачыняюць апошнія агульнанацыянальныя газеты на беларускай мове — гэта выклік грамадству, якога не бывала яшчэ.

«НН» стаіць перад новым этапам свайго жыцця. Мы тры гады, ад 2005 да 2008-га, выдаваліся без магчымасці афіцыйнага распаўсюду, але былі зарэгістраванымі. Зараз сітуацыя будзе складанейшай.

Не факт, што ўлады дапусцяць выхад наступных нумароў «НН». Не ясна, у якой форме захаваецца рэдакцыйны калектыў. Няма простых рашэнняў у гэтай сітуацыі. Беларусь яшчэ чакае доўгая дарога да свабоды.

Будзем змагацца ў судах, нягледзячы на прадвызначаны вынік.

Будзем захоўваць узважанасць і рэалізм як аснову рэдакцыйнага курса.

Абяцаем зрабіць усё, каб «Наша Ніва» выжыла.

Што трэба, каб надалей атрымліваць газету? Як і ў 2005 годзе, калі нас выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы.

**Рэд.**

**«Нашу Ніву» зачыняюць, бо яна папулярная. Лічбы**

Менш чым за тры гады пасля вяртання ў распаўсюд тыраж «Нашай Нівы» вырас у 3,3 разу, а аўдыторыя сайта «Нашай Нівы» ў сакавіку 2011 склала 70 тысяч рэальных карыстальнікаў. У снежні 2010 года, у месяц выбараў, аўдыторыя сайта NN.BY была аж 110 тысяч карыстальнікаў. А ў красавіку, калі грамадства ўскалыхнуў тэракт, — 120 тысяч.

Тое самае і «Народная Воля» — яна за 2008—2011 гады павялічыла тыраж у 2,5 разу, а аўдыторыю сайта — у яшчэ большай прапорцыі.

Каментары да гэтых лічбаў не патрэбныя.

## Што рабіць чытачам?

Каб надалей атрымліваць газету, дашліце свае адрасы ў Рэдакцыю.

1. Як і ў 2005 годзе, калі газету выганялі з «Белсаюздруку» і «Белпошты», просім усіх, хто хоча і надалей чытаць «Нашу Ніву», паведаміць нам свае паштовыя адрасы. Кантакты тых, хто падпісваўся праз Рэдакцыю, мы маем. Просім тэрмінова даслаць свае кантакты тых, хто падпісваўся праз «Белпошту» або купляў газету ў кіёсках.

**Паведаміць Вашы адрасы можна праз электронную пошту dastauka@nn.by. Або праз тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 260-78-32, (029) 618-54-84, Skype: nashaniva. Або лістом на адрас: а/с 537, Мінск, 220050.**

Гэтыя ж кантакты — для наўпростага сувязі з Рэдакцыяй па ўсіх пытаннях, звязаных з лёсам «НН».

2. **Чытайце сайт nn.by.** Калі раптам сайт nn.by стане недаступны, чытайце сайт **nnby.eu**, які прыйдзе яму на змену ў выпадку патрэбы.

**Падрыхтоўчае пасяджэнне па закрыцці «Нашай Нівы» — 11 мая**

Рэдакцыя «Нашай Нівы» атрымала ліст з Вышэйшага гаспадарчага суда. Падрыхтоўчае пасяджэнне па справе аб закрыцці газеты адбудзецца 11 мая, а 12-й гадзіне. Дата пачатку асноўнага суда яшчэ невядомая.

**Першая «Наша Ніва» закрылася** ў 1915 годзе. Праз паўтара года пасля гэтага рухнуў царызм.

## Куды скардзіцца?

«Калі справа дойдзе да суда, прадухіліць закрыццё газет будзе ўжо бадай немагчыма», — лічыць юрыст, намеснік старшыні Беларускай асацыяцыі журналістаў Андрэй Бастунец.

«Фармальна ў газет хапае папярэджанняў, каб суд, не ўнікаючы ў сутнасць справы, задаволіў зыскі Мініфармацыі. Таму спыніць драматычнае развіццё падзеяў ёсць шанец толькі праз адкліканне зваротаў у суд», — лічыць юрыст.

Журналісцкая арганізацыя склала прыкладны ўзор звароту ў Мініфармацыі, які можа накіраваць у гэтае ведамства любы грамадзянін Беларусі — чытач газеты, занепакоены рашэннем Мініфарма.

Звароты можна накіроўваць заказным лістом альбо пакінуць у кабінеце № 519 Міністэрства інфармацыі.

Прыкладны ўзор самага простага звароту:

*Міністру інфармацыі Рэспублікі Беларусь*

*Праляскоўскаму Алегу Вітольдавічу*
*220004, г. Мінск, пр. Пераможцаў, 11.*

*Прозвішча, імя, імя па бацьку, дадзеныя пра месца жыхарства і (альбо) працы (вучобы)*

*Зварот*

*З паведамленняў СМІ я, (прозвішча, імя, імя па бацьку), даведаўся, што Міністэрства інфармацыі звярнулася ў суд з зыскам пра закрыццё газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Я з'яўляюся даўнім чытачом указаных выданняў. Спроба закрыць гэтыя СМІ груба парушае мае канстытуцыйныя правы — у прыватнасці, права на атрыманне, захаванне і распаўсюд поўнай, праўдзівай і своечасовай інфармацыі (арт. 34 Канстытуцыі РБ). Лічу, што такія дзеянні Міністэрства інфармацыі замахваюцца і на гарантаваныя Канстытуцыяй РБ свабоду меркаванняў, перакананняў і іх свабоднае выказванне.*

*Прашу адклікаць іск пра спыненне выпуску газет «Наша Ніва» і «Народная Воля».*

*Адказ на ўказаны зварот прашу даць у парадку і ў тэрміны, прадугледжаныя законам «Аб зваротах грамадзян».*

*Дата, подпіс*

Акрамя таго, можна пакідаць свае заўвагі і прапановы ў Кнізе скаргаў і прапаноў, якая знаходзіцца ў кабінеце № 519 у намесніка кіраўніка справамі Міністэрства інфармацыі (г. Мінск, пр-т Пераможцаў, 11), тэл. 306-32-90. Тэлефон «гарачай лініі»: 203-92-31.

**Беларуская асацыяцыя журналістаў**

## Сціслa

• **Беларусь увайшла ў дзясятку краін свету з найгоршым станам свабоды прэсы.** Гэта вынікае са штогадовай справаздачы амерыканскай праваабарончай арганізацыі Freedom House. Спіс са 196 краін замыкаюць Беларусь, Бірма, Іран, Куба, Лівія, Паўночная Карэя, Туркменістан, Узбекістан, Экватарыяльная Гвінея і Эрытрэя. У гэтых краінах незалежныя СМІ або не існуюць, або амаль не могуць працаваць, адзначаецца ў справаздачы. Доступ грамадзян да непрадузятай інфармацыі абмежаваны, а іншадумства душыцца.

• **Швейцарыя замарозіла фінансавыя актывы Кадафі, Мубарака і Бен Алі.** Швейцарыя выявіла і замарозіла фінансавыя актывы лідараў Лівіі, Егіпта і Туніса. На рахунках Кадафі знаходзілася 360 млн швейцарскіх франкаў, 410 млн франкаў — на рахунках Мубарака і 60 млн — на рахунках Бен Алі.

• **Мэр Вільні агледзіць месца будаўніцтва АЭС у Астраўцы.** Артурас Зуокас у канцы тыдня мае намер наведаць Астравецкі раён і агледзець месца, дзе плануецца будаваць атамную электрастанцыю. АЭС у Беларусі плануюць пабудаваць усяго за 50 км ад Вільні. Гэта непакоіць кіраўніцтва горада і Літвы.

• **23-гадовы беларус загінуў у ЗША ў аўтакатастрофе.** Аварыя здарылася недалёка ад горада Хэмптан Пондс (штат Масачусетс) уначы. BMW 1998 г.в., якім кіраваў 23-гадовы жыхар горада Уэстфілд Дзмітры Хоцкі, урэзаўся ў агароджу. Хоцкага выкінула з аўто, ён загінуў. 22-гадовы пасажыр Раман Марозаў атрымаў лёгкія раненні, 24-гадовы Дзмітры Маскалёў пацярпеў найменш. Паліцыя спрабуе скантактавацца са сваякамі Хоцкага, якія жывуць у Беларусі.

• **Сіноптыкі папярэджваюць аб начных замаразках да мінус 3—5 градусаў.** 5 мая ў начныя і ранішнія гадзіны па Брэсцкай і Гродзенскай абласцях, 6 мая па заходняй палове краіны і Мінскай вобласці на глебе і ў паветры чакаюцца замаразкі да 0— мінус 3°С, 6 мая на тарфяніках Палесся — да мінус 5°С. Раніцай 4 мая ў Брэсце і Гродне магчымы мокры снег.

**СМ**

## «Усім — маўчаць!»

За час кіравання Лукашэнкі знішчана нямала газет. Але замах на «Нашу Ніву» і «Народную Волю» — гэта асаблівы выпадак. Ён азначае пералом у адносінах уладаў з незалежнымі СМІ. Піша Аляксандр Старыкевіч. **Старонка 7.**

### Самае чытанае на nn.by за 27 красавіка — 3 мая

1 Лукашэнка зачыняе «Нашу Ніву» і «Народную Волю»
2 Працэс Саннікава. Рэпартаж
3 Працэс Вінаградава, Кіркевіча, Дразда, Пратасені. Такія розныя сведкі. Рэпартаж
4 НТВ: Лукашэнка проста зводзіць рахункі
5 У «Беларусбанка» скончыліся нават беларускія рублі?
6 Дзяржаўным СМІ забаранілі пісаць пра цэны і курс даляра?
7 Фотафакт: Першамай у Баранавічах у найлепшых традыцыях савецкага застою
8 Ісламісты пагражаюць забіць мусульманку Сылу Шахін, якая знялася для «Плэйбоя»
9 Мінпрацы: Беларусь блізкая да рэзкага росту беспрацоўя і сацыяльнай напружанасці
10 Дарафеева звольнілі з АНТ зусім




## Ліцэйскае навучанне на беларускай мове

Інфармацыя пра дзейнасць ліцэйскіх класаў з беларускай мовай навучання ў Гданьску (Польшча) і магчымасць навучання ў іх маецца ў Таварыстве беларускай мовы (вул.Румянцава, 13). Т.: (029) 639-27-15 (Ірына).

## «Гематома ягадзіцы»

Кранальную гісторыю расказаў на працэсе Саннікава намеснік камандзіра роты спецназа Сяргей Л.

На працэсе экс-кандыдата ў прэзідэнты Андрэя Саннікава — суд за Плошчу — пачаўся допыт пацярпелых. Першым паказанні даў намеснік камандзіра роты спецназа міліцыі Сяргей Л. У часе разгону ён атрымаў гематому ягадзіцы.

Л. расказаў, што першы раз спецназаўцам ставілася задача адціснуць натоўп ад Дома ўрада, а другі — рассекчы натоўп на дзве часткі. Кажа, што ім можна было ўжываць шчыты і гумовыя палкі. Л. кажа, што каманды яму аддаваў Аляксандр Лукомскі, камандзір падраздзялення ПМСН.

У мітынгоўцаў былі вуды, дзяржальны ад рыдлёвак, кажа пацярпелы. Імі наносілі ўдары. Л. сцвярджае, што на яго нехта замахваўся ледасекам. Але ўдар прыпаў чаранком, бо міліцыянт ухіліўся. Другі ўдар, з ягоных словаў, прыйшоўся ў вобласць левай ягадзіцы. У выніку Л. трапіў у шпіталь МУС і знаходзіўся там у стацыянары чатыры дні.

Праўда, судмедэксперты ў часе паралельнага працэсу Вінаградава—Кіркевіча траўмы Л. не пацвердзілі. Згодна з выпіскай, ступень пашкоджання «вызначыць не ўяўляецца магчымым».

**ЗП**

**Рэпартажы з судоў — старонка 5.**

## Дзякуй падпісчыкам, якія падпісваюцца праз Рэдакцыю

Івану З. з Пружанскага раёна.

Аляксею П. з Гродна.

Антону Б., Галіне Ю. з Верхнядзвінскага раёна.

Уладзіміру Я., Галіне Г., Вользе П., Іне С. з Барысаўскага раёна.

Мікалаю Т. з Асіповіцкага раёна.

Фёдару В. з Талачынскага раёна.

Руслану К., Сяргею А., Мікалаю К. з Полацкага раёна.

Вікенцію С. з Івянецкага раёна.

# Лукашэнка не паехаў ва Украіну, бо Мядзведзеў адмовіўся сустрэцца з ім?

**Заявы Лукашэнкі на адрас Барозу і Януковіча пакрыўдзілі Украіну, а ЕС даў адэкватны адказ.**

26 красавіка Лукашэнка растлумачыў сваю адсутнасць у Чарнобылі на сустрэчы з Януковічам і Мядзведзевым. «Задайце гэтае пытанне Януковічу: чаму беларускі прэзідэнт не прысутнічае на іх мерапрыемствах, — казаў ён там журналістам. — На жаль, вашывасці хапае ў цяперашняга кіраўніцтва Украіны».

Тады сама Лукашэнка назваў старшыню Еўракамісіі Жазэ Мануэла Барозу «казлом». «Што тычыцца такіх казлоў, як Барозу і іншых... Ну, хто такі Барозу? Быў нейкі Барозу ў Партугаліі, але выгналі яго і ўладкавалі ў Еўракамісію. Я менш за ўсё гляджу, што дзе хто ляпнуў з еўрапейскіх чыноўнікаў. Іх там тысячы».

Рэакцыя Еўракамісіі — урада Еўрасаюза — была імгненнай і рэзкай.

«Мы не прызнаём яго дэмакратычна абраным прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. У ЕК няма практыкі каментаваць заявы звычайных грамадзянаў», — сказала ў аўторак у Брусэлі агенцтву «Інтэрфакс-Украіна» крыніца ў Еўрапейскай камісіі.

Акрамя таго, суразмоўца агенцтва таксама заявіў, што інфармацыя пра нібыта ўмову, вылучаную Ж. М. Барозу ўдзельнічаць у Чарнобыльскім саміце выключна ў выпадку адсутнасці А. Лукашэнкі, не адпавядае рэчаіснасці. «Такая ўмова ніколі не вылучалася. Не зразумела, каму выгадна тыражаваць хлусьлівую інфармацыю», — сказала крыніца.

Гэтую рэзкасць кіраўніка Беларусі аналітыкі тлумачылі трохі ранейшымі падзеямі. Лукашэнка быў запрошаны і на міжнародную канферэнцыю краін-донараў, якая прайшла 19 красавіка ў Кіеве з удзелам старшыні Еўракамісіі Жазэ Мануэла Барозу. Аднак Барозу, нібыта, выставіў умову свайго прыезду ў Кіеў: адсутнасць там беларускага кіраўніка. Урэшце Лукашэнка не паехаў.

Аднак, як паведаміла «НН» дыпламатычная крыніца, магчыма, у Аляксандра Лукашэнкі была іншая прычыны для нервознасці. Нібыта Мінск прапаноўваў Маскве правесці 26 красавіка ва Украіне двухбаковую сустрэчу. Аднак прэзідэнт Расіі Дзмітрый Мядзведзеў не пагадзіўся, паведаміла крыніца.

Прычыны шукаць сустрэчы з расійскім кіраўніцтвам у Лукашэнкі ёсць. Расія зацягвае справу з крэдытам у $3 млн, без якога кіраўніцтву Беларусі не ўдаецца пераадолець фінансавы крызіс. Калі ранейшыя праблемы ў эканоміцы беларускае кіраўніцтва тлумачыла сусветнымі катаклізмамі, то цяпер Беларусь адзіная ў Еўропе, што зведвае такія праблемы. Аднак Расія, відаць, зважае на міжнародны імідж кіраўніка Беларусі, які, адзначыла тая ж крыніца «НН», зрабіўся персонай, з якой у Еўропе «не будуць размаўляць ні пры якіх абставінах». «Калі ён пазвоніць, ніхто трубкі не падніме», — адзначае крыніца «НН».

**Сяргей Мікулевіч**

**Еўракамісія: Лукашэнку не прызнаём дэмакратычна абраным, таму не адказваем**

Еўрапейская камісія не мае намеру каментаваць заяву Аляксандра Лукашэнкі на адрас прэзідэнта ЕК Жазэ Мануэла Барозу.

«Мы не прызнаём яго дэмакратычна абраным прэзыдэнтам Рэспублікі Беларусь. У ЕК няма практыкі каментаваць заявы звычайных грамадзянаў», — сказала ў аўторак у Брусэлі агенцтву «Інтэрфакс-Украіна» крыніца ў Еўрапейскай камісіі.

Пазней афіцыйны прадстаўнік ЕК Аліўе Балі пацвердзіў агенцтву пазіцыю Еўракамісіі не каментаваць заяву А. Лукашэнкі.

А вось Міністэрства замежных спраў Украіны Лукашэнку адказала. «Падыходы афіцыйнага Мінска да адносін з Еўрапейскім саюзам, многімі іншымі ўдзельнікамі міжнароднай супольнасці ў апошнія месяцы ўсё менш адпавядаюць нормам міжнародных зносін», — гаворыцца ў паведамленні дэпартамента інфармацыйнай палітыкі украінскага МЗС.

«Памяць пра ахвяр радыяцыйнай катастрофы павінна быць звяном кансалідацыі для нашых краін. Менавіта з гэтых меркаванняў зыходзіў прэзідэнт Украіны Віктар Януковіч, запрашаючы сваіх калег — прэзідэнтаў Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь разам ушанаваць загінулых у выніку выбуху на ЧАЭС менавіта ў дзень, калі адбылася найбуйнейшая тэхнагенная катастрофа ў гісторыі чалавецтва. У гэтым мерапрыемстве не было і не магло быць ніякай палітыкі. У гэты дзень любыя сваркі і ўзаемныя прэтэнзіі тоесныя скокам на касцях, — пішуць украінскія дыпламаты. — Тым большае абурэнне выклікаюць беспрэцэдэнтна некарэктныя каментары прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Асабістыя абразы непрымальныя ў зносінах паміж людзьмі. Асабліва яны непрымальныя, калі абразлівія выказванні адрасуюцца дзяржаўным дзеячам, якія выступаюць ад суверэнных краін і цэлых аб'яднанняў краін».

**Сяргей Гезгала**

## Лябедзька прабачыў Раманчуку

**Экс-кандыдат у прэзідэнты ад Аб'яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Яраслаў Раманчук пакляўся старшыні арганізацыі Анатолю Лябедзьку, што не залежыць ад спецслужбаў.**

«Ён мне пакляўся і пабажыўся, што ніякай залежнасці ні па падпісанні нейкіх дакументаў, ні ў выглядзе нейкага кампрамату ў яго ці на яго не існуе», — паведаміў журналістам старшыня АГП.

Лідар партыі паабяцаў усё жыццё ваяваць з сістэмай, «якая прымушае людзей паказваць свае самыя слабыя якасці».

Раніцай 20 снежня, пасля прэзідэнцкіх выбараў, Раманчук пад прымусам зачытаў заяву, у якой абвінавачваў Мікалая Статкевіча, Андрэя Саннікава і Віталя Рымашэўскага ў тым, што яны заклікалі і павялі людзей на плошчу Незалежнасці. Раманчук заявіў, што асуджае заклікі да дзеянняў, якія парушаюць мірны характар правядзення масавых акцый.

У той жа дзень яму была арганізавана сустрэча з Аляксандрам Лукашэнкам, на якой Раманчук, паводле яго слоў, папрасіў вызваліць Лябедзьку. 6 красавіка ён быў адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

Першапачаткова Лябедзька ўстрымліваўся ад каментароў адносна заяваў Ярослава Раманчука.

**ЗП**




Народ стогне: «Не — росту цэн». А афіцыйныя прафсаюзы пішуць бяспечнае: «Не — зніжэнню зарплат». А якое ж можа быць зніжэнне зарплат, калі рубель дэвальвуецца?

# Да Гурбангулы Бердымухамедава

**З першым замежным візітам пасля выбараў Лукашэнка выправіўся не ў Маскву і не ў Брусэль.**

Пасля няўдалай спробы трапіць ва Украіну на канферэнцыю да 25-годдзя Чарнобыльскай АЭС і зрыву трохбаковай сустрэчы з Януковічам і Мядзведзевым, Лукашэнка накіраваўся ў далёкі Туркменістан.

Цікава, што гэты візіт стаў першым афіцыйным візітам кіраўніка краіны пасля апошніх выбараў. Толькі праз пяць месяцаў. Прынята лічыць, што па першаму візіту вызначаецца далейшы вектар развіцця міжнародных адносінаў. У Беларусі ён сёлета выглядае вельмі экзатычным.

Куды яшчэ мог паехаць Лукашэнка? Раней ён здзяйсняў візіты ў Маскву, каб засведчыць сваю адданасць у інтэграцыйных праектах, а таксама выбіць некаторыя палёгкі ў энергетычнай і паліўнай сферах.

Лукашэнка быў ужо сёлета ў Расіі, на адпачынку ў Сочы. Ён спадзяваўся, што нехта з расійскага кіраўніцтва з ім такі сустрэнецца. Але прачакаўшы шмат дзён, так і з'ехаў ні з чым.

Ад візіту расійскага прэм'ера Уладзіміра Пуціна ў Мінск таксама засталося ўражанне, што былой цеплыні ў дачыненнях саюзнікаў не назіраецца. Было бачна, што адносіны напружаныя і цяжкія.

Пасля падзеяў 19 снежня чакаць візіту Лукашэнкі ў Еўропу зусім не выпадала. Пакуль у краіне дзясяткі палітвязняў, а палітыка — варожая Еўропе, ніхто з беларускім лідарам там гаварыць не будзе. Украіна таксама паказала, што дачыненні з Еўропай ёй больш важныя.

Беларусь з Туркменістанам знаходзяцца прыкладна на адным узроўні ў рэйтынгах свабоды словы і грамадзянскіх правоў. Гэта адна з найбольш закрытых краін свету.

Разам з тым, Туркменістан з'яўляецца адным з найбуйнейшых прадаўцоў прыроднага газу. У Беларусь туркменскі газ не даходзіць, хоць Лукашэнка некалькі разоў гаварыў пра неабходнасць такога праекта.

Малаверагодна, што бліжэйшым часам падобны праект можа паўстаць. Тавараабарот між краінамі таксама не самы вялікі — 87 мільёнаў далараў. У асноўным, гэта беларускі экспарт — трактары, цягачы, цукар, лекі.

Затое ў Беларусі навучаецца 4,5 тысячы туркменскіх студэнтаў. Больш чым з якой іншай краіны. Папярэдні туркменскі «Башы», што значыць «Бацька», Ніязаў разагнаў у краіне ўніверсітэты. Цяперашні кіраўнік Гурбангулы Бердымухамедаў зразумеў важнасць адукаванага насельніцтва. Тым не менш, патэнцыялу аднавіць ВНУ пакуль няма. Танней навучаць туркменскую моладзь за мяжой.

**Зміцер Панкавец**

КАМЕНТАР

## Туркменскае пытанне беларускіх ВНУ

Туркменаў у ВНУ Беларусі 4500 чалавек — у разы больш, чым студэнтаў з іншых краін. З туркменскімі студэнтамі ўніверсітэты маюць купу праблем. Іншая культура, ніякай дысцыпліны...

У пагоні за валютай (Бердымухамедаў плаціць за навучанне моладзі нафтадаларамі) беларускі ўрад ігнаруе важную рэч. Калі ўніверсітэт выдае дыпломы студэнтам, якія фактычна не вучацца, такі ўніверсітэт дэградуе.

У Іране, напрыклад, беларуская медычная адукацыя ўжо перастала прызнавацца аўтаматычна, як раней. Выпускнік з беларускім дыпломам мусіць здаць грунтоўны іспыт да давучваца за шалёныя грошы ў самім Іране. Затое гэта не датычыць выпускнікоў з Еўропы. А што было чакаць, калі «выпускнікі» беларускіх ВНУ з цяжкасцю гавораць па-расейску, дарма што нібыта «вучыліся» на гэтай мове.

Вось так Беларусь, раздаючы псеўдадыпломы за грошы, карумпуе выкладчыкаў, якія перастаюць трымаць стандарты. І губляе рэпутацыю.

**Цалкам каментар усходазнаўцы Сяргея Богдана чытайце на nn.by**

# Урадавыя чыноўнікі выступаюць за дэвальвацыю

Белстат: 600 тысяч работнікаў спынілі сваю дзейнасць.




**У чаканні даляраў.**

Прадпрыемствы не могуць купіць валюту. Таму 600 тысяч работнікаў у краіне часова прыпынілі працу. З такой сенсацыйнай заявай выступіў старшыня Нацыянальнага статыстычнага камітэта Уладзімір Зіноўскі.

«Як старшыня Белстата я інфармую вас, што за апошні час 600 тысяч работнікаў у рэальным сектары эканомікі прыпынілі сваю дзейнасць па ініцыятыве наймальнікаў і кіраўнікоў прадпрыемстваў, бо адчуваецца дэфіцыт сыравіны для вытворчасці», — прагаварыўся Зіноўскі на канферэнцыі па пытаннях лібералізацыі беларускай эканомікі ў Мінску. Ён растлумачыў, што гэта звязана, у тым ліку, і «з курсавымі пытаннямі». «Пытанне гэтае, безумоўна, вырашыцца, і даволі хутка, бо гэта нельга зацягваць», — сказаў кіраўнік Белстата.

Паводле ацэнкі Міністэрства эканомікі, колькасць занятых у 2011 годзе павінна была скласці 4,7 мільёна чалавек. 600 тысяч з іх — гэта больш за 12% чалавек, фактычна кожны восьмы беларус.

На наступны дзень яго думку развіла дырэктарка Навукова-даследчага інстытута Міністэрства працы і сацыяльнай абароны насельніцтва Святлана Шаўчэнка. «У Беларусі магчымы рэзкі рост беспрацоўя і ўзнікненне сацыяльнай напружанасці ў выпадку захавання існуючай сітуацыі на валютным рынку, — заявіла яна агенцтву «Інтэрфакс-Захад», — калі не будзе... умоў для свабоднага канвертавання рубля», — заявіла С. Шаўчэнка. Яна лічыць, што «гэтае пытанне неабходна вырашыць на працягу мая».

Шакуючую карціну паспрабаваў згладзіць старшыня беларускай федэрацыі прафсаюзаў Леанід Козік. Падчас першамайскага святкавання ён заявіў, што сумняваецца ў дакладнасці агучанай Зіноўскім інфармацыі. «Лічбы ў 600 тысяч работнікаў я не бачыў, — сказаў Козік. — Гэта просты выступ, чалавечыя развагі, хай нават аднаго з кіраўнікоў. Таму я іх не магу ўспрымаць як статыстыку і не думаю, што 600 тысяч будзе сядзець, гуляць.»

А сядзяць жа і гуляюць... «Насамрэч ёсць прадпрыемствы і з колькасцю працоўных 1000 чалавек, і з колькасцю 20 чалавек, якія ўсе — ад генеральнага дырэктара да сакратара — напісалі заявы на адпачынак за свой кошт», — пацвярджае старшыня Рэспубліканскай канфедэрацыі прадпрымальніцтва Уладзімір Карагін. «У фірмаў няма магчымасці разлічыцца за матэрыялы і камплектуючыя», — тлумачыць ён.

Заява Зіноўскага можа азначаць, што прамысловае лобі дабіваецца дэвальвацыі наперакор Лукашэнку. Яны палохаюць яго тым, чаго ён найбольш баіцца — беспрацоўем.

**Яўген Васількоў**

## Паліва можа зноў падаражэць

У Расіі бензінавы крызіс, ён уплывае і на Беларусь.

Многія рэгіёны Расіі ў апошнія дні сутыкнуліся з тым, што бензін або істотна падаражэў, або знік. Падаражанне бензіну ў Расіі можа прывесці і да павышэння цэн на паліва ў Беларусі.

Каб пакрыць дэфіцыт бензіну, Расія паднімае экспартную пошліну на бензін з 1 мая на 44%. Зараз яна будзе складаць аж $408,3 за тону, што зробіць экспарт бензіну нявыгадным. Гэта паўплывае і на Беларусь — цалкам несамастойную ў пытаннях энергетыкі.

«[На сустрэчы ў «Белнафтахіме»] нам далі зразумець, што «Белнафтахім» мае намер і далей павялічваць цэны на паліва, каб павялічыць рэнтабельнасць прадпрыемстваў канцэрна», — распавёў Арцём Шаркоў, лідар грамадскага аб'яднання «За аўто».

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, рост цэн можа адбыцца ў першай палове мая.

**ЯВ**

## Мазырскі НПЗ закрыўся на рамонт

Пастаўкі азербайджанскай нафты спыніліся.

На Мазырскім нафтаперапрацоўчым заводзе з 1 мая пачаўся рамонт. Ён працягнецца два месяцы — да канца чэрвеня. Падчас рамонтных прац загрузка сыравіны будзе зніжана ў 1,5-2 разу.

Спыненне завода прыпыніла пастаўкі азербайджанскай нафты. Яшчэ месяц таму намеснік гендырэктара ЗАТ «Беларуская нафтавая кампанія» Андрэй Шышко заяўляў журналістам, што планавы капітальны рамонт прадоўжыцца тры тыдні. Цяпер высветлілася, што зменены і тэрміны, і ўмовы рамонту.

Гэта можа адлюстроўваць праблемы Беларусі з аплатай за нафту.

Як вядома, у 2011 годзе Расія пайшла на пастаўку нафты са зніжкамі, каб перабіць Беларусі жаданне дасягнуць дыверсіфікацыі энергарэсурсаў.

**ЯВ**

## У «Беларусбанка» скончыліся нават беларускія рублі?

Банк прыпыніў крэдытныя выплаты па заключаных дамовах на льготнае будаўніцтва.

З банальным адказам «няма грошай» сутыкнуліся грамадзяне, якія ўдзельнічаюць у долевым будаўніцтве з прыцягненнем ільготнага крэдыту ад «Беларусбанка». Гэтыя выплаты (звычайна 3–10 мільёнаў штомесяц) праводзяцца ў пачатку месяца, але да апошніх дзён красавіка грошы ўсё яшчэ не былі пераведзеныя.

Супрацоўнікі банка тлумачаць, што раней сродкі выдзяляліся з унутраных рэзерваў банка, а цяпер «Беларусбанк» чакае, пакуль іншыя структуры дадуць дазвол на выдачу грошай.

Такая пратэрміноўка з'яўляецца парушэннем крэдытных дамоваў. У большасці выпадкаў за яе будуць расплачвацца самі дольшчыкі — неаплачаная частка крэдыту штомесяц павялічваецца на індэкс будаўнічамантажных прац. У гэтым месяцы ён складае больш за 3%. Такім чынам, калі банк не пераводзіць абяцаныя 10 мільёнаў, дольшчыкі будуць вымушаныя даплаціць больш за 300 тысяч рублёў. У апошні дзень красавіка некаторыя аддзяленні «Беларусбанка» ўсё ж перавялі невялікую частку абяцаных грошай. Часцяком забудоўшчык атрымліваў некалькі соцень тысяч рублёў замест патрэбных 10 мільёнаў.

Прэс-служба «Беларусбанка» не абвяргае і не пацвярджае гэтую інфармацыю. Карэспандэнту «НН» параілі звярнуцца ў арганізацыю з пісьмовым запытам і праз законныя дзесяць дзён атрымаць адказ.

**ЯВ**

### Сцісла

• **«Белавія» дэвальвавала рубель на 30%.** На сайце авіяперавозчыка цэны на білеты ўказаныя ў еўра. Але калі шчоўкнуць на опцыю «далей», то кошт квітка пераводзіцца ў рублі. Атрымліваецца, што еўра лічыцца ў сярэднім па 5800 рублёў.

• **«Газпром»: Беларусь аплачвае газ без пратэрміновак.** Леташняя сітуацыя, калі Беларусь была вымушаная тэрмінова пазычаць $200 мільёнаў у Азербайджана, каб расплаціцца за расійскі газ, не паўтараецца. «На цяперашні момант усе патрэбныя плацяжы ўжо прыйшлі. Ніякіх прэтэнзій «Газпром» не мае, бо пратэміновак няма», — заяўляе прэс-служба кампаніі.

• **Адмоўнае сальда за сакавік — $1,06 мільярда.** Мінусовае сальда замежнага гандлю таварамі за студзень—сакавік 2011 склала $3,03 мільярда. Апошнія месяцы сальда расце роўна — мінус мільярд за месяц.

**ЯВ**

КАМЕНТАР

## Праблема даверу

Савецкая ўлада заўсёды абкрадала народ. Хто ж паверыць яе духоўным нашчадкам? Піша **Анатоль Сідарэвіч**.

Выбары 19 снежня паказалі, што ўлада страціла істотную частку сваёй электаральнай базы — пенсіянераў у гарадах. У прыватнасці, у старых кварталах Мінска, дзе жывуць пераважна былыя чыноўнікі, галоўны чыноўнік не набраў і 40 адсоткаў галасоў.

Цяперашнія пенсіянеры — гэта ўжо не «савок» 1990-х. Памятаю чэргі пры канцы мінулага года, калі ўлада амаль штомесяц павышала пенсіі.

«Новыя пенсіянеры», якія ўжо ведаюць, што такое інфляцыя, дэфляцыя, стагнацыя і ўсякія іншыя дэфолты, кпілі з улады: хочуць нас падкупіць і не задумваюцца, што будзе пасля выбараў.

Пенсіянеры ўхвальна глядзелі на маладых, якія, дачакаўшыся сваёй чаргі, прасілі апэратарак перавесці рублёвыя дэпазіты ў даляравыя: разумная моладзь. А некалькі старэйшых за мяне мужчын вырашылі забраць свае даляры з банка: хто іх ведае, нашчадкаў камісараў, могуць жа і секвестр на валютныя рахункі накласці.

Валютна-фінансавы і — шырэй — эканамічны крызіс не стаў для большасці грамадзян нечаканасцю. Крызіс паказаў: большасць грамадзян уладзе не верыць.

У гэтым сэнсе паказальныя інтрэв'ю прафесара Леаніда Заікі газеце «Звязда» (27 красавіка) і выступленне мінскага гараданачальніка Мікалая Ладуцькі на афіцыйным першамайскім мітынгу.

Галоўная думка Л. Заікі вылучана ва ўрэзцы да інтэрв'ю: кожны беларус, калі ён жадае лепшага сваё краіне, павінен свабодныя грошы трымаць у адным з фінансавых інстытутаў. Эканаміст наракае, што ў нашых людзей «няма звычкі, традыцыі і, калі хочаце, культуры працы са сваімі грашовымі зберажэннямі», г.зн. захоўваць грошы ў банках. На пытанне карэспандэнта, «колькі прыкладна ў нашага насельніцтва назапашана свабоднай валюты ў доларавым эквіваленце», ён не адказвае. Называе суму, якая нядаўна мелася на банкаўскіх рахунках грамадзян: ад чатырох да пяці мільярдаў. За прафесара Л. Заіку адказаў чыноўнік М. Ладуцька: у грамадзян Беларусі цяпер захоўваецца ад 12 да 14 мільярдаў даляраў. Такім чынам, сума, якая захоўваецца ў «панчохах», амаль утрая большая за суму, якая знаходзіцца ў банках.

Падчас крызісу грамадзяне Паўднёвай Карэі неслі свае зберажэнні, золата, плаціну і брыльянты ў банкі. Пасля жахлівага цунамі свае зберажэнні з «панчох» дасталі і панеслі ў банкі японцы.

Беларусы, упэўнены, не панясуць. Бо няма даверу да ўлады. Савецкая ўлада заўсёды абкрадала народ. Няма ўпэўненасці, што не падмане грамадзян і сучасная ўлада. Нам абяцалі, што будуць кампенсаваныя ўклады грамадзян у Ашчадны банк СССР. Прайшло амаль дваццаць гадоў пасля распаду Саюза, але ўлада нічога не зрабіла, каб напоўніцу выканаць сваё абяцанне.

З другога боку, «новыя пенсіянеры» і людзі сярэдняга веку (а асноўная маса зберажэнняў у іх) могуць сказаць: добра, мы прынясём грошы ў банкі, але на што вы іх патраціце? На ўтрыманне сілавых структураў і стварэнне новых атрадаў АМАПу, на зарплаты і прэміі чыноўнікам ці на структурныя рэформы? Дзе план гэтых рэформаў?

Дзе план эканоміі дзяржаўных сродкаў? Мы ўважліва слухалі выступленне галоўнага чыноўніка перад сваімі парламентарыямі і не пачулі ніякай канкрэтыкі наконт заўтрашняга дня краіны.

І нарэшце: хто гарантуе, што нашы грошы вернуцца да нас з працэнтамі? Тыя людзі, якія абяцалі нам кампенсаваць страты, панесеныя ў 1991 годзе? Людзі, якія абяцаюць нам еўрапейскі стандарт жыцця, а самі топчуць еўрапейскія прынцыпы?

# Саннікаў: Ніякіх масавых беспарадкаў я не арганізоўваў




**Андрэй Саннікаў**

Нар. у 1954 — кандыдат у прэзідэнты, былы намеснік міністра замежных справаў. На тых участках у Мінску, дзе назіральнікі маглі вольна сачыць за падлікам галасоў, Саннікаў упэўнена выходзіў на другое месца і мусіў бы адбыцца другі тур.

**Ілля Васілевіч**

Нар. у 1991 — навучэнец Політэхнічнага каледжа, быў старастам групы.

**Алег Гнедчык**

Нар. у 1986 — ад 2003 у дэмакратычным руху. У часе прэзідэнцкай кампаніі падтрымліваў Уладзіміра Някляева.

**Фёдар Мірзаянаў**

Нар. у 1990 — студэнт БДЭУ. На Плошчы быў разам з сябрам Іллёй Васілевічам.

**Уладзімір Яроменак**

Нар. у 1991 — маладафронтавец, студэнт БДУІР. Сам з Мёраў, піша вершы. Адказвае ў судзе па-беларуску.

Андрэй Саннікаў першым з кандыдатаў у прэзідэнты паўстаў перад судом. Змучаны, але не зломлены.

У зале суда Партызанскага раёна ён з'явіўся ў касцюме. Праўда, без гальштука. З густой барадой. Калі суддзя Чацвярткова ў самым пачатку запыталася, ці прызнае ён сваю віну, то яшчэ да адказу ў зале разнеслася: «Не прызнае». Гэта быў голас старэнькай мамы Саннікава Алы Уладзіміраўны.

Саннікаў не прызнаў.

У зале не было яговай жонкі Ірыны Халіп, якая пад хатнім арыштам. Затое прыйшлі цесць з цешчай — Уладзімір і Люцына.

Былі і шматлікія паслы — ЗША, Германіі, Швецыі, Вялікабрытаніі, Венгрыі. Гэта таксама маральная падтрымка.

Сам Саннікаў быў нешматслоўны. Гаварыў толькі тады, калі задавалі прамыя пытанні. І сам залішне не пытаўся.

«З іншымі кандыдатамі я сваіх дзеянняў не каардынаваў. Ніякага сумеснага планавання Плошчы не было. Важны быў сам факт перамоваў. Я разлічваў, што знойдуцца ва ўрадзе смелыя людзі, якія прызнаюць наяўнасць крызісу. Абсалютная лухта — ніякіх масавых беспарадкаў я не арганізоўваў. Я заўсёды казаў, што мы будзем выконваць Канстытуцыю», — гаварыў Саннікаў.

Кандыдат у прэзідэнты расказаў, што на Плошчы быў збіты да непрытомнага стану. Яго адбівалі жонка Ірына і шафёр Леанід Навіцкі. Першапачаткова Саннікава завезлі на Акрэсціна, дзе сказалі, што патрэбная шпіталізацыя. «Замест бальніцы я апынуўся ў Амерыканцы,» — кажа палітык.

Разам з Саннікавым на лаве падсудных апынулася чацвёра юнакоў: Ілля Васілевіч, Фёдар Мірзаянаў, Алег Гнедчык, Уладзімір Яроменак. Васілевіч і Мірзаянаў на судзе заявілі, што на іх ціснулі падчас следства.

Паводле іх словаў, ім пагражалі стварыць невыносныя ўмовы адбыцця пакарання. Абяцалі ў выпадку абгаворвання кандыдатаў выпусціць на свабоду. Пасля таго, як хлопцы гэта сказалі, на добры толк, працэс трэба было прыпыняць, каб разабрацца ў гэтых акалічнасцях. Суддзя ж прапусціла гэта міма вушэй.

Ураджэнцы Баранавічаў Мірзаянаў і Васілевіч трымаюцца ў судзе дзёрзка, смела.

Мама Мірзаянава Людміла кажа, што яе сын спадзяецца даказаць сваю невінаватасць, але сама яна раіць Федзю падрыхтавацца да несправядлівага выніку. Васілевіч прасіў перадаць на працэс белую кашулю, але адміністрацыя СІЗА не дазволіла.

Сведкі абвінавачвання, спецназаўцы, сведчылі, што бачылі на Плошчы кінутыя кавалкі арматуры, ледасекі, рыдлёўкі, бутэлькі з невядомымі сумесямі.

А вось сведка абароны пенсіянер Пятро Кучко паказаў, што грош цана гэтым паказанням. Кучко застаўся на Плошчы пасля разгону. І змог сфатаграфаваць яе. Ён зафіксаваў момант, калі спецназ толькі-толькі выціснуў дэманстрантаў. Ніякіх «экстрэмісцкіх прыладаў» на стаптаным снезе плошчы Незалежнасці не было. Няўжо і пасля гэтага будуць вынесеныя абвінаваўчыя прысуды?

**Зміцер Панкавец**

## Прынцыповыя судмедэксперты

не пацвердзілі атрымання спецназаўцамі траўмаў на Плошчы.

Працягваюцца судовыя працэсы над фігурантамі справы аб так званых «масавых беспарадках» 19 снежня. На лаве падсудных аднаго з такіх апынуліся Павел Вінаградаў, Зміцер Дрозд, Уладзімір Хамічэнка, Алесь Кіркевіч, Андрэй Пратасеня. Іх судзяць разам, хоць між сабой некаторыя з іх да таго знаёмыя не былі.

Усіх пецярых вінавацяць у тым, што яны білі шкло ў Доме ўрада, збівалі міліцыянтаў на Плошчы. Сваю віну цалкам прызнаў толькі Пратасеня. Часткова — Хамічэнка і Вінаградаў (ён абвінавачваецца яшчэ ў спальванні дзяржсцяга ў 2007). Кіркевіч і Дрозд сваёй віны не прызналі.

Героямі працэсу гэтых пяці аказаліся судмедэксперты. Гэтыя прынцыповыя спецыялісты не пацвердзілі траўмаў, якія, як сцвярджалі спецназаўцы, былі ім нанесеныя 19 снежня. Згодна з выпіскамі, ступень пашкоджання «вызначыць не ўяўляецца магчымым». Не пацвердзілася, напрыклад, адна з самых «страшных» траўмаў — пабітая левая ягадзіца намесніка камандзіра роты спецназа міліцыі Сяргея Л.

Вынікі іншай, псіхіятрычнай, экспертызы Уладзіміра Хамічэнкі (якога журналісты празвалі яшчэ агент «Навушнік») не былі агучаныя. Падчас допыту экспертаў прысутных папрасілі выйсці з залы.

Адметна, што суддзя Ала Булаш задаволіла хадайніцтвы адвакатаў аб долучэнні да справы дадатковых сведкаў. Так, сведчылі літаратуразнаўца Язэп Янушкевіч і старшыня Беларускага Хельсінскага камітэта, праваабаронца Алег Гулак.

Янушкевіч апеляваў да прадуктыўнай навуковай дзейнасці Змітра Дразда. Ён нават прынёс важкі том — «Землеўладальнікі Мінскай губерні. 1861–1900», падрыхтаваны Драздом. І перадаў на даследаванне рэцэнзію на кніжку, якая была далучаная да справы.

Алег Гулак расказаў пра падзеі 19 снежня зусім з іншага пункта гледжання, чым спецназаўцы і дзяржаўныя СМІ. Суддзя не перапыняла яго.

Сямешкі ў зале выклікаў пратакол агляду плошчы Незалежнасці пасля мітынгу. Не стрымаўся нават пракурор, які зачытваў дакумент, дазволіў сабе сарказм. Маўляў, складаецца ўражанне, што ўся плошча была засыпана бутэлькамі з гаручай вадкасцю і «белай тканінай, палова якой знаходзіцца ў бутэльцы, палова — звонку».

**Сяргей Макарэвіч**







**Павел Вінаградаў (на фота злева) кідае выклік абвінаваўцам. А вось Зміцер Дрозд (за ім) і Алесь Кіркевіч (на правым фота) выглядаюць змучанымі.**

**Каго судзяць?**

**Зміцер Дрозд**

Нар. у 1973. Скончыў гістфак БДУ, займаецца навуковай дзейнасцю.

**Уладзімір Хамічэнка**

Нар. у 1986 — так званы «агент «Навушнік». Быў судзімы за крадзеж. Адпушчаны на волю 6 снежня 2010, менш чым за два тыдні да Плошчы.

**Алесь Кіркевіч**

Нар. у 1989. Намеснік старшыні Маладога Фронту. Жыве ў Гродне. Жанаты, несудзімы. Адказвае ў судзе па-беларуску.

**Андрэй Пратасеня**

Нар. у 1983. Мае вышэйшую адукацыю: скончыў БДУ. Несудзімы.

**Павел Вінаградаў**

Нар. у 1988. Мае сярэднюю спецыяльную адукацыю. Судзімы ў 2008 па палітычнай «Справе чатырнаццаці» — за ўдзел у мітынгу прадпрымальнікаў. Быў асуджаны на два гады ўмоўна.

## Татальнае праслухоўванне тэлефонаў

Абвінавачванне супраць каардынатара «Хартыі-97» Змітра Бандарэнкі ў вялікай ступені базавалася на запісах ягоных тэлефонных размоваў.

Бандарэнка спрабаваў дабіцца адказу, хто даваў санкцыю на праслухоўванне ягоных тэлефонаў за два, тры месяцы да выбараў? Па якой справе, на якой падставе? Адказаў ён не атрымаў. Суддзя Равінская зрабіла выгляд, што пытанняў не чула.

На судзе былі агучаныя размовы Бандарэнкі з Наталляй Радзінай. Зміцер тэлефанаваў і прасіў пераставіць на сайт «Хартыі-97» які-небудзь артыкул ці змяніць банер. Аказваецца, гэта таксама дзеянні, што рыхтавалі грубыя парушэнні грамадскага парадку.

Як і знойдзеная прыператрусе на кватэры Бандарэнкі ўлётка з нечым нумарам тэлефона. Яе таксама запісалі да справы. Стаяла задача стварыць чым большую «доказную базу».

У знак салідарнасці на судзе над палітвязнем прысутнічаў вядомы спявак Лявон Вольскі. Яны некалі разам з Бандарэнкам працавалі на легендарнай беларускамоўнай FM-станцыі «Радыё 101.2».

У апошнім слове Зміцер Бандарэнка сказаў: калі б каманда Саннікава рыхтавала беспарадкі, то яны б былі. Ён нагадаў, што ў камандзе кандыдата было некалькі адстаўных генералаў. «Але Саннікаў — дыпламат», — адзначыў Бандарэнка. Ён узгадаў выслоўе, што ўзмах крылаў матылька можа памяняць ходу гісторыі. «Высокі суд, ваша рашэнне — гэта больш, чым узмах матылька».

Бандарэнка асуджаны на два гады калоніі агульнага рэжыму. Пракурор прасіў тры.

**ЗП**

## Памерла мама палітвязня Змітра Дашкевіча

Вользе Дашкевіч, маме лідара Маладога Фронту, было ўсяго 54 гады.

Яе сэрца спынілася ў ноч на 26 красавіка. Яго разбіла трывога за сына. Нядаўна Дашкевіч быў асуджаны на два гады турмы. Яго затрымалі за дзень да выбараў і абвінавацілі ў хуліганскім нападзе.

Бацькі далёка не адразу прынялі тыя пазіцыі, за якія змагаецца іх сын. У адносінах Дашкевіча з бацькамі былі складаныя перыяды. У 2006 годзе Зміцер упершыню апынуўся за кратамі. Ягоны бацька прыходзіў да суда, які разглядаў справу за зачыненымі дзвярыма. Тады ён і змяніў сваё стаўленне.

Вячаслаў і Вольга Дашкевічы пражылі ў шлюбе 32 гады. Працавалі журналістамі. Спачатку на Магілёўшчыне, потым пераехалі ў Магаданскую вобласць. Цяжарная Вольга прыехала нараджаць сына ў Беларусь, хоць потым зноў вярнуліся на Далёкі Усход.

Змітру дазволілі развітацца з мамай у моргу, паўгадзіны. Яго адвезлі туды з турмы пад канвоем.



**ЗП**

# Першамай у традыцыях застою

Шчаслівыя твары, бравурныя лозунгі. Нібы і няма таго росту цэнаў ды чэргаў па валюту. Першамайскае шэсце ў Баранавічах прайшло ў найлепшых традыцыях савецкага застою.



INTEX-PRESS.BY

Як паведамляе карэспандэнт баранавіцкай газеты Intex-press, у часе афіцыйнага шэсця ў цэнтры горада з нагоды 1 мая каментатар паведамляў гараджанам пра поспехі, дасягнутыя ў мясцовай прамысловасці. «Тавары баранавіцкіх прадпрыемстваў карыстаюцца вялікім попытам не толькі ў Беларусі, але і за мяжой». Самым паспяховым быў названы 558-ы Баранавіцкі авіярамонтны завод.

Людзі трымалі ў руках не толькі сцяжкі і транспаранты, але і спецыфічную святочную атрыбутыку. Адзін удзельнік шэсця нёс кардонны макет агурка — амаль у свой рост. Над калонай луналі лозунгі «За моцную і квітнеючую Беларусь», «Айчынныя тавары па-за канкурэнцыяй».

Летась у Баранавічах на Першамай банкаўскія работнікі неслі знакі даляра і еўра, звязаныя з паветраных шарыкаў. Сёлета такога не было. Успрынялі б як палітычную правакацыю.

**СМ**


PHOTO.BYMEDIA.NET

**У студэнцкім конкурсе прыгажосці «Каралева Вясна» перамагла студэнтка Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Бажэна Багінская. Яна вучыцца на мастацкім факультэце.**

## Вольскі выступіў насуперак забаронам

«Белая яблыня грому» ў Гродне і Брэсце сабрала залы.

У Мінску пасля з'яўлення «чорных спісаў» дзеячаў культуры выступы «Крамбамбулі» і «Ляпісаў» адмянілі. У рэгіёнах забараніць любімага спевака не рашыліся.

Лявон Вольскі даў канцэрты з праграмай «Белая яблыня грому»: 25 красавіка — у Гродне, 28 — у Брэсце.

Гэта незвычайная праграма на вершы класікаў: Багушэвіча, Купалы, Танка, Барадуліна. Няпростая музыка, глыбокія тэксты, а ўсё ж на «Яблыню» ў абласных гарадах збіраліся залы.

Цяпер рыхтуюцца аналагічныя выступы ў Магілёве, Гомелі, Віцебску.

**Сяргей Макарэвіч**


**Лявона Вольскага ў Брэсце віталі стоячы.**

**Мы самі па сабе**

22 красавіка гурт N.R.M. адыграў сольны канцэрт у Полацку. Без былога саліста Лявона Вольскага, але з новымі песнямі.

## Be2gether сёлета не будзе

Музычны фестываль Be2gether у гэтым годзе не адбудзецца. Прычына — валютны крызіс у Беларусі, а таксама праблема з фінансаваннем фэсту з еўрапейскага боку.

«Мінулы год паказаў, што фестывалю на літоўскім рынку яшчэ цяжка выжыць выключна за кошт продажу білетаў. Ён патрабуе значных інвестыцый», — заявіў літоўскаму выданню 15min.lt бізнесмен Гедрус Клімкявічус, які папярэднія чатыры гады займаўся арганізацыяй фэсту.

«Мы падалі заяўкі і ўсё яшчэ чакаем адказу з еўрапейскіх фондаў. Вядзём перамовы аб інвестыцыях з Украінай, але пакуль не знайшлі рашэнне, якое б задаволіла абодва бакі. На прыняцце рашэння паўплывала і дэвальвацыя рубля ў Беларусі», — сказаў Клімкявічус.

Каля траціны наведвальнікаў прыязджала на Be2gether з Беларусі.

Фестываль Be2gether чатыры гады запар праходзіў на мяжы з Беларуссю ля маёнтка бізнэсоўца Клімкявічуса. У найбольш паспяховыя гады колькасць гледачоў дасягала 11 тысячаў.

**Паводле Generation.by**

# Гэта наша мова, гэта нашы школы

Хутка набор у першы клас і малодшыя групы! Прапануем падрабязную інфармацыю, адрасы і кантакты беларускамоўных школ і садкоў.

### Мінск. Беларускамоўныя школы і гімназіі

**Гімназія №4 (Кунцаўшчына, 18)**: навучанне ў фізіка-матэматычных, хіміка-біялагічных і філалагічных класах.

E-mail: gymn4.minsk.edu.by, т.: (017) 258-49-71, 258-49-74.

**Гімназія №23 (пр. Незалежнасці, 45)**: выкладанне на высокім узроўні англійскай, кітайскай, польскай моваў.

E-mail: gymn23@minsk.edu.by; т.: (017) 284-47-62, 284-87-16.

**Гімназія №9 (Сядых, 10)**: паглыбленае вывучэнне англійскай мовы, факультатыўнае — польскай. Прапануе вывучэнне прадметаў музычнага цыкла.

Т.: (017) 283-04-21, 281-38-04.

**Гімназія №28 (Ракасоўскага, 93)**: паглыбленае вывучэнне французскай мовы, міжнародныя абмены, выкладанне прадметаў на французскай мове (краіназнаўства, літаратура Францыі) па праграмах, распрацаваных настаўнікамі школы.

E-mail: sch2@minsk.edu.by.; т.: (017) 248-32-02, 248-12-64.

**Гімназія №14 (Васняцова, 10)**: паглыбленае вывучэнне замежных моваў, спецкурсаў па міфалогіі, псіхалогіі, асновах эканамічных ведаў, журналістыцы. На базе гімназіі дзейнічаюць фальклорны ансамбль, музеі, літаратурная студыя і студыя бальных танцаў.

Т.: (017) 295-01-33, 295-21-31.

**СШ №190 (Нікіфарава, 19):** выкладанне на беларускай і расійскай мовах. Бясплатная музычная адукацыя і спартыўныя секцыі.

Т.: (017) 260-24-90; e-mail: sch190@minsk.edu.by.

**СШ №60 (Лібкнехта, 82)** — навучанне з музычным ухілам. У школе дзейнічаюць гурткі, клубы, музей, творчыя і грамадскія аб'яднанні.

Т: (017) 208-69-74, 209-94-49.

**СШ № 68 (зав. Ахоцкі, 17)**: набор у класы з фальклорна-тэатральным напрамкам.

E-mail: sch68@minsk.edu.by; т. (017) 243-76-82.

### Мінск. Белмоўныя класы ў расійскамоўных школах

СШ №11 (Асаналіева, 14) — школа з агульнаэстэтычным ухілам.

Т.: (017) 277-45-34, 275-59-10.

***

СШ №72 (Халмагорская, 59) — сёлета будзе набірацца адзін беларускамоўны першы клас. Дадаткова — вывучэнне англійскай мовы, мастацкі ўхіл.

Т.: (017) 246-53-71, 246-52-42.

***

СШ №108 (Уральская, 15) — спартыўныя гурткі і секцыі, вячэрнія класы.

E-mail: sch108@minsk.edu.by, т.: (017) 245-20-41.

***

СШ №131 (Убарэвіча, 74) — вывучэнне замежных моваў (нямецкай, польскай, французскай, іспанскай, шведскай), харэаграфіі.

Т.: (017) 340-62-38, 345-14-12.

***

СШ №180 (Радужная, д.8, корп.3) — паглыбленае вывучэнне англійскай мовы.

Т.: (017) 250-10-49.

***

СШ №209 (Рафіева, 91) — вывучэнне французскай мовы, вакальныя студыі, спартыўныя секцыі.

Т. (017) 274-69-71, 256-48-77.

***

СШ №110 (Брэсцкая, 66) — дзейнічае праграма «Здароўе».

Т. (017) 278-58-81, 278-11-12.

**У Брэсце маленькаму Франку шукаюць кампанію ў першы клас**

Бацькі Франка Ільіна з Брэста шукаюць сыну кампанію ў 1-ы клас з беларускай мовай навучання. Кантакты праз e-mail: soap@euroradio.fm.

### Гродна

СШ №32 (Ліможа, 11)

Т.: (0152) 48-50-48; 43-64-03.

### Магілёў

СШ №1 (Першамайская, 24)
Т.: (0222) 22-12-64; 31-07-85.

### Баранавічы

СШ №14 (Піянерская, 98)
Т.: (0163) 42-51-50.

### Дзіцячыя дашкольныя ўстановы Мінска, дзе ёсць беларускамоўныя групы:

Заводскі раён

ДДУ №202 (Партызанскі пр., 85а). Т.: (017) 245-12-92.

Кастрычніцкі раён

ДДУ №97 (Ландэра, 18). Т.: (017) 277-89-11, 277–49–20, ddu97@minsk.edu.by.

Ленінскі раён

ДДУ №101 (Якубава, 60). Т.: (017) 238-88-61.

Маскоўскі раён

ДДУ №412 (пр. Газеты Праўда, 64а). Т.: (017) 271-68-47.

ДДУ №473 (Ясеніна, 6/4). Т.: (017) 271-94-06.

ДДУ №541 (Ясеніна, 137). Т.: (017) 205-37-24.

Партызанскі раён

ДДУ №543 (Бумажкова, 39). Т.: (017) 235-36-02.

Першамайскі раён

ДДУ №220 (Каліноўскага, 11а). Т.: (017) 265-23-02.

ДДУ №273 (Каліноўскага, 89). Т.: (017) 263-06-84.

ДДУ №522 (Русіянава, 23). Т.: (017) 260-65-01.

ДДУ №66 (пр. Незалежнасці, 102а). Т.: (017) 264-60-52.

ДДУ№361 (Цікоцкага, 44). Т.: (017) 263-38-28.

Савецкі раён

ДДУ №314 (Багдановіча, 68а). Т.: (017) 234-25-61.

Фрунзенскі раён

ДДУ №534 (Матусевіча, 59). Т.: (017) 257-76-91.

ДДУ №570 (Чайлыткі, 28). Ёсць белмоўная група для дзяцей 4-5 год. Т.: (017) 315-60-44.

ДДУ №565 (Гарэцкага, 47). Будзе малодшая група. Т.: (017) 315-73-79.

Цэнтральны раён

ДДУ № 187 (Кахоўская,64а). Т.: (17) 213-06-71 — 6 груп, афіцыйна цалкам беларускі.

ДДУ № 218 (б-р Шаўчэнкі, 13). Т.: (017) 288-09-33.

ДДУ № 234 (Карастаянавай, 19). Т.: (017) 288-50-75.

ДДУ № 503 (Радужная, 4, корп.2). Т.: (017) 234-36-05.

**Падрыхтаваў Сямён Печанко**

**Да чытачоў.** Дасылайце ў Рэдакцыю інфармацыю пра беларускамоўнае навучанне ў вашай вобласці і раёне. Пішыце пра новыя ініцыятывы бацькоў і ўпраўленняў адукацыі.

# Суайчыннікі, абараніце Управу!

Грамадскасці Беларусі

Копія: Старшыні Мінгарвыканкама Ладуцьку М. А.
Копія: в.а начальніка ЖРЭА Савецкага раёна г. Мінска Самуйліку А.М.

ЗВАРОТ

Сядзіба на Машэрава, 8 — асаблівае месца ў найноўшай гісторыі Беларусі. Ад 1992 года яго арандуе Беларускі Народны Фронт, але так сталася, што цяпер гэты офіс мае значэнне не для асобнай партыі, а для цэлага грамадства.

Пытанне з офісам на Машэрава, 8 выходзіць за межы спрэчкі гаспадарчых суб'ектаў. З высяленнем офіса ЖРЭА ліквідуе своеасаблівы востраў беларускасці, на якім ішла актыўная грамадская і культурная дзейнасць.

Сядзіба на Машэрава, 8 (раней Варвашэні, 8) — гэта публічная прастора, дзе бытуе жывая беларуская мова. Гэта месца, дзе людзі натуральна набываюць вопыт гаварэння пабеларуску — крытычна важны для захавання мовы. Адначасова гэта месца, дзе фармуецца грамадзянская супольнасць Беларусі. Тут сутыкаюцца погляды. Без такога месца наша свабода і наша культура пацерпяць.

Трэба абараніць яго. Гэта патрэбна не дзеля палітыкі. Гэта патрэбна дзеля культуры, дзеля мовы.

Мы — у большасці сваёй беспартыйныя, — дактары і педагогі, навукоўцы і спевакі, пісьменнікі і артысты, бацькі беларускамоўных школьнікаў і краязнаўцы, карысталіся памяшканнямі на Машэрава, 8, для грамадскай дзейнасці, для самаадукацыі і самарэалізацыі, дзякуючы таму, што Партыя БНФ трымала дзверы адкрытымі для ўсіх. Другога такога памяшкання ў нас няма.

Звяртаемся да адпаведных чыноўнікаў, якія могуць вырашыць гэтае пытанне.

Офісных плошчаў хапае. Арандатар спраўна плаціў у бюджэт горада. Просім пакінуць Управу па ранейшым адрасе. Беспадстаўна скасаваць арэнду — гэта значыць нанесці крыўду многім людзям, стварыць нагоду для грамадскага пратэсту.

Звяртаемся таксама да ўсіх грамадзянаў нашай краіны.

Існаванне беларусаў у сённяшняй Беларусі — гэта няспынная здача пазіцый. Беларуская нацыя падышла да крытычных рубяжоў — як у дэмаграфіі, так і ў сітуацыі з мовай, культурай. І адзін з гэтых рубяжоў — Управа.

У свой час моладзь абараніла народны мемарыял Курапаты ад апаганьвання. Хто мае гонар грамадзяніна — далучайцеся гэтаксама да абароны Управы.

Заклікаем кожнага, хто можа, несці вахту салідарнасці ў памяшканні па адрасе: праспект Машэрава, 8.

**Радзім Гарэцкі**, геолаг, акадэмік Акадэміі навук Беларусі
**Ніл Гілевіч**, народны паэт Беларусі
**Лявон Вольскі**, спявак
**Уладзімір Арлоў**, пісьменнік
**Зінаіда Бандарэнка**, народная артыстка Беларусі
**Андрэй Хадановіч**, паэт, старшыня Беларускага ПЭН-цэнтра
**Алег Трусаў**, старшыня Таварыства беларускай мовы
**Алена Макоўская**, кіраўнік Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына»
**Захар Шыбека**, доктар гістарычных навук
**Арлен Кашкурэвіч**, народны мастак Беларусі
**Алеся Кіпель**, адвакатка
**Сяргей Навумчык**, адзін з аўтараў Дэкларацыі аб суверэнітэце Беларусі
**Алесь Анціпенка**, філосаф
**Алесь Пашкевіч**, пісьменнік, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў
**Зміцер Вайцюшкевіч**, спявак
**Аляксандр Старыкевіч**, рэдактар інтэрнэт-газеты «Салідарнасць»
**Святлана Калінкіна**, шэф-рэдактарка газеты «Народная Воля»
**Артур Клінаў**, мастак, рэдактар часопіса «pARTisan»
**Зміцер Салошкін**, доктар-рэаніматолаг
**Аляксандр Таўстыка**, прадпрымальнік
**Зміцер Лупач**, праграміст
**Генадзь Бураўкін**, паэт, дыпламат
**Дар'я Ліс**, журналістка, актывістка руху за правы людзей з абмежаванымі магчымасцямі
**Яўген Ліпковіч**, блогер
**Мілана Міхалевіч**, выкладчыца
**Кастусь Севярынец**, журналіст
**Таццяна Севярынец**, педагог
**Сяргей Будкін**, журналіст, рэдактар музычнага партала «Тузін Гітоў»
**Анатоль Сідарэвіч**, гісторык літаратуры
**Алесь Марачкін**, мастак
**Алесь Пушкін**, мастак
**Васіль Сёмуха**, перакладчык
**Алесь Разанаў**, паэт
**Барыс Пятровіч**, пісьменнік, рэдактар часопіса «Дзеяслоў»
**Валер Булгакаў**, філосаф, рэдактар часопіса ARCHE
**Ірына Віданава**, рэдактар інтэрнэт-часопіса CD-Mag
**Арсень Ліс**, літаратуразнаўца, доктар філалагічных навук
**Глеб Лабадзенка**, журналіст, блогер
**Альгерд Бахарэвіч**, пісьменнік
**Андрэй Дынько**, рэдактар газеты «Наша Ніва»


PHOTO.BYMEDIA.NET

**Андрэй Скурко**, рэдактар газеты «Наша Ніва»
**Аляксандр Фядута**, літаратуразнаўца, кандыдат філалагічных навук
**Віктар Івашкевіч**, сябра аргкамітэта партыі «Беларускі Рух»
**Аляксандр Дабравольскі**, палітык
**Аляксандр Адамянц**, дырэктар Цэнтра еўрапейскіх даследаванняў
**Аляксей Кароль**, рэдактар газеты «Новы час»
**Валянцін Акудовіч**, філосаф
**Наталка Бабіна**, пісьменніца
**Марыя Мартысевіч**, пісьменніца, перакладчыца
**Кастусь Цвірка**, перакладчык, рэдактар кніжнай серыі «Беларусі кнігазбор»
**Алесь Гелагаеў**, гісторык
**Зміцер Колас**, перакладчык, выдавец
**Ігар Логвінаў**, выдавец
і яшчэ 42 подпісы
**Далучыцца свой подпіс можна на сайце nn.by**

# «Усім — маўчаць!»

За час кіравання Лукашэнкі знішчана нямала газет. Але замах на «Нашу Ніву» і «Народную Волю» — гэта асаблівы выпадак. Ён азначае пералом у адносінах уладаў з незалежнымі СМІ. Піша **Аляксандр Старыкевіч.**

Нават царскі ўрад у пачатку XX стагоддзя не апусціўся да таго, каб зачыніць «Нашу Ніву». Паскудстваў рабілі нямала, але вось каб проста ножыкам па горле — гэтага не было. Падобна на тое, іншых аргументаў — акрамя ножыкам — у цяперашняй улады ўжо не засталося. Здавалася б: яна цалкам манапалізавала грамадска-палітычнае тэле- і радыёвяшчанне, дзяржаўныя газеты выходзяць тыражом несувымерна вялікім, чым незалежныя. А толку — ледзь. Афіцыйная прапаганда церпіць поўнае паражэнне. Не дарма пасля нядаўніх выбараў разбор палётаў скончыўся адстаўкамі двух выдатных байцоў ідэалагічнага фронту — Наталлі Пяткевіч і Аляксандра Зімоўскага. Не спадабаліся Аляксандру Лукашэнку вынікі галасавання, не спадабаліся ...

Падзеі першых чатырох месяцаў 2011-га — валютны крызіс, рост цэнаў, тэракт — папулярнасці кіраўніку дзяржавы відавочна не дадалі. І, мяркуючы па ўсім, праблемы ў эканоміцы будуць нарастаць.

Складваецца ўражанне, што ўлада пачынае губляць кантроль над сітуацыяй. У гэтай сітуацыі любая альтэрнатыўная інфармацыя здаецца ёй небяспечнай. Рэакцыяй на тое, што адбываецца, стаў немы крык: «Усім — маўчаць!»

Відавочна, што атакай на «Нашу Ніву» і «Народную Волю» справа не абмяжуецца. У бліжэйшы час можна чакаць «зачысткі» ў інтэрнэце. Ад тых СМІ, якія не патрапяць пад раздачу цяпер, запатрабуюць «падціснуць хвасты». Наступае пераломны момант, калі права на існаванне мае толькі адзін пункт гледжання —афіцыйны...

Адтэрміное або, наадварот, паскорыць развязку стаўка на грубую сілу? Бог ведае. На форуме «НН» адзін з чытачоў напісаў:

«Былі чарнасоценцы і была «Наша Ніва». «Наша Ніва» засталася, дзе цяпер чарнасоценцы?

Былі бальшавікі і была «Наша Ніва». «Наша Ніва» засталася, дзе цяпер бальшавікі? ..

Ёсць «Наша Ніва» і ёсць Лукашэнка. Я ні на што не намякаю, але «Наша Ніва» выйшла ў фінал».

Чым у выніку скончыцца гэты паядынак, у мяне сумневаў няма.

Былі чарнасоценцы і была «Наша Ніва». «Наша Ніва» засталася, дзе цяпер чарнасоценцы?

Былі бальшавікі і была «Наша Ніва». «Наша Ніва» засталася, дзе цяпер бальшавікі? ..

Ёсць «Наша Ніва» і ёсць Лукашэнка. Я ні на што не намякаю, але «Наша Ніва» выйшла ў фінал.

**З каментароў на сайце nn.by**

Нагадаем, што ў рубрыцы «Меркаванні» публікуюцца артыкулы, якія могуць супадаць, а могуць і не супадаць з меркаваннем Рэдакцыі.

# Віцэ-прэм'ер Тозік пачаў за здравіе, а скончыў за ўпакой

Жаданні лукашэнкаўцаў разыходзяцца з магчымасцямі. Піша **Мікола Бугай**.

Неабходнасць правядзення сур'ёзных структурных рэформаў наспела ў эканоміцы Беларусі. З такой смелай заявай выступіў намеснік прэм'ер-міністра Анатоль Тозік на «семінары кіраўнікоў рэспубліканскіх СМІ» 29 красавіка.

«Мяркую, што наша эканоміка не можа далей паспяхова развівацца ў існуючым фармаце і патрабуе сур'ёзных структурных рэформаў», — сказаў віцэ-прэм'ер.

«Нам трэба перастаць жыць не па сродках, а менавіта так у апошнія гады мы жылі, калі на 10–13% спажывалі больш, чым выраблялі», — дадаў ён.

Тозік пачаў за здравіе, а скончыў за ўпакой.

Паводле яго слоў, глыбокія эканамічныя пераўтварэнні ў Беларусі неабходна праводзіць, захоўваючы і мацуючы цяперашнюю палітычную сістэму.

«Мой досвед працы ў Кітаі гэта пацвярджае: многія краіны Паўднёва-Усходняй Азіі дамагліся каласальных поспехаў у эканоміцы і змаглі гэта зрабіць толькі з дапамогай моцнай палітычнай улады», — адзначыў ён. Бо «фінансава-эканамічны крызіс паказаў, што тая эканамічная мадэль, якую выбудавалі ў Беларусі, здольная забяспечыць развіццё краіны».



Польская эканоміка без «моцнай улады», «каласальных поспехаў» і «нарадаў рэспубліканскіх СМІ» забяспечвае сярэдні заробак па 1200 даляраў. А наша з «моцнай» і «каласальнымі» — толькі 450.

Віцэ-прэм'ер увайшоў у супярэчнасць сам з сабой. Калі мы спажывалі больш, чым выраблялі, то чаму крызіс паказаў, што мадэль правільная? Увогуле, нашто нам «глыбокія перамены», калі «мадэль правільная»?

Захапленне лукашэнкаўцаў Кітаем — або палітычна матываванае, або ад абмежаванасці далягляду. Сапраўды каласальных поспехаў у Азіі дабіліся Японія, Карэя, Тайвань — усё дэмакратычныя, плюралістычныя дзяржавы.

Ніводная аўтарытарная, а тым больш таталітарная краіна Азіі і блізка не дасягнула такога ўстойлівага развіцця, як яны. Кітай жа пакуль знаходзіцца на такім нізкім старце, з якога лёгка расці. Але застаецца вялікім пытаннем, да якога ўзроўню ён дарасце. І яшчэ большае пытанне, наколькі справядліва кітайскі народ карыстаецца пладамі гэтага росту.

У захапленні лукашэнкаўцаў Кітаем выяўляецца іх любоў да валу, да росту як самамэты, да паказухі.

Тая самая любоў, якая прымушала іх «спажываць на 13% больш, чым выраблялі», найперш каб атрымліваць кітайскія лічбы росту ВУП. На чым грунтуецца поспех кітайскага экспарту? На танным юані і супертаннай, бяспраўнай працоўнай сіле. Зрабі рубель па 6000 за даляр, і беларускі экспарт таксама пачне перавышаць імпарт. Але і заробкі стануць, як у хвалёным Кітаі.

А такая опцыя Лукашэнку не пасуе. І не таму, што ён так дбае пра дабрабыт народа. Проста яму з краінай не пашанцавала. Побач польская эканоміка без «моцнай улады», «каласальных поспехаў» і «нарадаў рэспубліканскіх СМІ» забяспечвае сярэдні заробак па 1200 даляраў. А наша з «моцнай» і «каласальнымі» — толькі 450.

А апусці заробак да 225, і тут ужо ніякія «рэспубліканскія СМІ» не памогуць ўцерці акуляры. Тут табе не там. Еўропа!

У выніку жаданні лукашэнкаўцаў разыходзяцца з магчымасцямі. А словы — са справамі. Лукашэнкаўцы — і Тозік цяпер далучыўся — з года ў год таўкуць пра «экспартаарыентаванасць». А пры гэтым сёння, фактычна, у самым нявыгадным становішчы апынуліся... экспарцёры. Пра якіх на словах так шмат гаворыцца. Бо гэта ж экспарцёры вымушаныя прадаваць 30% выручкі па заніжаным курсе (а народ — усе 100%). Чаму? Таму што афіцыйны курс даляра палітычна матываваны.

Бо «моцная ўлада» ўстыдаецца прызнаваць уласныя эканамічныя памылкі.

Вось і прыходзіцца небаракам-Тозікам выдумляць ровар, які б ехаў наперад, калі ты круціш педалі назад. Уся Еўропа дурная, адны мы разумныя. Ва ўсёй Еўропе еўрапейская мадэль, адны мы — па-кітайску. Абы апраўдаць існаванне «моцнай улады».

Каб не казаць «дыктатура» ці «тыранія», Тозік ужывае эўфемізм «моцная ўлада». Выраз харошы, але надуманы. Сапраўды моцная ўлада там, дзе нізкая карупцыя, эфектыўныя чыноўнікі. У Эстоніі — моцная ўлада. У Швецыі і Нідэрландах таксама. А ўлада дыктатарская — слабая, бо бескантрольная.

# Адзін за ўвесь Нацбанк

Сайт prokopovi.ch, створаны як жарт, зрабіўся з’явай года ў Беларусі.




«Беларускі праграміст стварыў сайт, які дазваляе беларусам абыходзіць афіцыйна ўведзеныя жорсткія абмежаванні на гандаль валютай, — з захапленнем пішa амерыканскі ўплывовы штодзённік The Wall Street Journal. — На фоне пустых абменных кіёскаў, чутак пра блізкую дэвальвацыю рубля і валютнага крызісу ў краіне на яго «чорным рынку ў інтэрнэце» рэгіструюцца тысячы жыхароў Беларусі».

Сайт www.prokopovi.ch , створаны як жарт, на вачах ператвараецца ў адну з самых запамінальных сацыяльных з’яў Беларусі 2011 года. Месяц таму малады праграміст, які называе сябе проста Пецем — цёзкам старшыні Нацбанка Пятра Пракаповіча, — увасобіў у жыццё «відавочную ідэю». Літаральна за адны выходныя ён стварыў сайт, які ўжо наведваюць каля 15 000 чалавек у дзень.

Галоўная разынка ў тым, што паслугі, якія прапануе сайт, выглядаюць цалкам законнымі. Наведнік, які хоча набыць або прадаць пэўную колькасць валюты, праглядае аб’явы, пакінутыя іншымі карыстальнікамі, пакуль не знойдзе патрэбнага яму чалавека. Пасля яны сустракаюцца ў адным з абменнікаў. Заходзяць адразу ўдвух. Першы здае даляры ці еўра па афіцыйным курсе, другі па тым самым курсе купляе. Да гэтага моманту ўсё законна на сто працэнтаў. Застаецца маленькая дробязь — на выхадзе з абменніка пакупнік валюты аддае прадаўцу дадатковую суму ў беларускіх рублях. Тут застаецца верыць у шчырасць свайго новага «кампаньёна».

Неўзабаве пасля запуску праекта сайт перастаў даваць рады наведнікам — знайшлося столькі ахвотных памяняць грошы.

**Яўген Васількоў**

**Народная дэвальвацыя**

Курсы «Ад Пракаповіча»

Даляр — 4000 рублёў (33% ад афіцыйнага курса)

Еўра — 6000 рублёў (34%)

Расійскі рубль (мала прапаноў) — 150 рублёў (37%)

# «Сайт будзе працаваць да апошняга кліента»

«НН» звязалася з таямнічым «Пецем», стваральнікам сайта prokopovi.ch.

**«Наша Ніва»: Як узнікла ідэя стварыць такі сайт?**

**Пеця:** У Фэйсбуку сябры адзін за адным сталі пакідаць абвесткі аб продажы\куплі грошай. Я падумаў, што дзеля іроніі над сітуацыяй (дый проста для трэніроўкі як праграміста) можна зрабіць адпаведны сайт. Цяпер свет вельмі мабільны, часта можна такія сайты сустрэць, якія літаральна за дзень-два робяцца для дапамогі па нейкай праблеме.

**«НН»: Сайт стаў звышпапулярным літаральна за некалькі дзён. Як Вы яго піярылі?**

**П.:** Ніяк! Стварыў толькі рахунак у Фэйсбуку. Усё. Увечары інфармацыя разляцелася. Я планаваў, што сайт будзе жартам-аднадзёнкай. Пра яго спачатку і пісалі як пра суполку гумарыстаў. Але потым сайтам пачалі карыстацца жывыя людзі, ды так актыўна, што я мусіў кінуць усё і пачаць дапрацоўваць яго.

**«НН»: Ён стаў Вам дарагі?**

**П.:** Нягледзячы на тое, што і прафесійных валютчыкаў там шмат, мы дапамагаем простым людзям. Пасля першага тыдня паставіў апытанку: ці вы памянялі валюту з нашай дапамогай? Думаў, калі хоць пяць чалавек не адкажа «так», усё кіну. За суткі прагаласавала тысяча чалавек, больш за сто адказалі, што мянялі. Стала зразумела, што выхадных у найбліжэйшы час не будзе.

**«НН»: А не баіцеся цікавасці з боку «органаў»?**

**П.:** Канечне, сітуацыя з сайтам зайшла далёка. Я ўпэўнены, што не парушаю заканадаўства (нас нават «Советская Белоруссия» падтрымлівае), але разумею, што ў нашай краіне гэтага часта недастаткова, каб не быць прыцягнутым да адказнасці. Але як ёсць, так ёсць, і сайт будзе працаваць да апошняга кліента. Праваахоўныя ж органы хай пішуць запыты ў чэшскі КДБ, калі ў іх будуць да нас пытанні (у адным з інтэрв’ю невядомы міліцыянт казаў, што з сайтам нельга нічога зрабіць, бо ён месціцца ў Чэхіі, дый журналісты шмат пра тое пісалі. А даменная зона .ch належыць Швейцарыі).

**«НН»: Як вы ўдасканальваеце «Пракаповіча»?**

**П.:** Увесь час дадаю на сайце новыя функцыі. З’явіцца магчымасць пазначаць абвесткі як несапраўдныя. Лёгкая мабільная версія. Падлучэнне па шыфраваным пратаколе — для большай бяспекі. Я хачу, каб сайт заставаўся бясплатным для ўсіх, хоць і прыдумаў ужо вельмі добрую схему манетызацыі.

**АСт**

## Дзяржаўным СМІ забаранілі пісаць пра цэны і курс даляра?

У найбліжэйшы час беларускія дзяржаўныя СМІ перастануць акцэнтаваць увагу на курсах валют і росце цэн у краіне.

Такую рэкамендацыю атрымалі 29 красавіка намеснікі галоўных рэдактараў дзяржаўных газет на нарадзе ў Адміністрацыі прэзідэнта. «Гэтыя тэмы варта пакуль што адкласці», — даведаліся яны. Інфармацыя была атрыманая карэспандэнтам «Нашай Нівай» ад аднаго з удзельнікаў нарады на ўмовах канфідэнцыйнасці.

Галоўныя ж рэдактары ў той час знаходзіліся на спецыяльным ідэалагічным семінары ў Гродне.

**Віталь Несцераў**

# Валютны голад: ахвярай стаў малы бізнэс

Нястача валюты ўдарыла па ўсіх, каму патрэбны пастаўкі з-за мяжы.

«Мы не зачыняемся, але праблемы ёсць», — кажа індывідуальны прадпрымальнік Аляксандр з Белаазёрска, які прадае вопратку. Калі знікла валюта, перад ім паўстала некалькі праблем.

Усю вопратку, у тым ліку і айчынную, прадпрымальнік набывае на гродзенскім аптовым рынку. Усе аптавікі прапануюць цэны ў далярах, і цэны гэтыя не змяніліся ані на цэнт. Кожны прадавец усталёўвае свой курс беларускага рубля. У сярэднім за месяц ён вырас больш чым на тысячу. На сёння большасць вядзе разлікі па курсе 4100, а то і 4200 рублёў за даляр. Адпаведна, і розднічныя цэны ў Аляксандра выраслі на 30%. Але прыбыткі пры гэтым скараціліся.

Пакуль не было праблемаў з валютай, прадпрымальнік браў частку сумы, а рэшту мог пачакаць месяц. Цяпер такое немагчыма.

У суседзяў-гандляроў садавінай і гароднінай істотна скараціўся асартымент.

Настаўніца Ганна з Капыля зарабляе, як і ўсе педагогі, мала. Жыве ад зарплаты да зарплаты. Раней набывала вопратку ў растэрміноўку. Плаціла за блузку палову цаны, а рэшту даносіла з заробку праз пару тыдняў. Гарадок малы, гандляры самі заахвочвалі да такога спосабу разліку. «Цяпер, калі хочаш набыць нешта ў растэрміноўку, — мусіш заплаціць больш», — кажа Ганна.

Калі прадпрымальнікам з Капыля і Белаазёрска валютны крызіс толькі падкарэктаваў умовы вядзення бізнэсу, то выканаўчы дырэктар адной з мінскіх фірмаў апынуўся на мяжы банкруцтва. Фірма Міхаіла гандлюе камп’ютарамі. Усё ішло шыкоўна. Міхаіл набыў новы легкавік, узяўшы дзеля гэтага валютны крэдыт. Цяпер жа ён апынуўся паміж двух агнёў. Бізнэс практычна спыніўся, крэдыт завіс. Калі сітуацыя ў самы бліжэйшы час не выправіцца, яго фірма збанкрутуе, кажа Міхаіл.

**Сямён Печанко**

# Старшыня Мінгарвыканкама прапануе шукаць валюту ў людзей

«Валюты ў краіне дастаткова, — заявіў журналістам Мікалай Ладуцька 1 мая на святочным мітынгу Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі ў Мінску. — Сёння ўжо і залежныя, і незалежныя эканамісты кажуць, што ў беларускага насельніцтва сфармаваныя накапленні ў 12–14 мільярдаў долараў».

Кіраўнік гарадскіх уладаў нагадаў, што ў мінулую пятніцу прэм’ер-міністр Міхаіл Мясніковіч быў з візітам у Салігорску, на закладцы новага завода па вытворчасці мінеральных угнаенняў. «Беларуская калійная кампанія ўстойліва працуе ў партнёрстве з расійскімі кампаніямі, — паведаміў Ладуцька. — І сотні тысяч тон штомесяц адгружаюцца спажыўцам — яны расплачваюцца валютай, якая паступае ў Нацбанк. Але мы кажам пра іншае: сёння за валюту мы купляем нафту, газ, медыкаменты. У каго з мінчан сёння дома не было гарачай вады, была адключаная электраэнергія, зімой заставаліся халоднымі батарэі? Чатыры дні выхадных — людзі выязджалі за горад. 12 тон шашлыкоў куплена — мяса ж не падаражэла, як, дапусцім, імпартныя шакаладкі, на 60%, праўда?»

**БелаПАН**




PHOTO BY MEDIA.NET

**Справа налева — старшыня Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі Леанід Козік, міністр працы Марыяна Шчоткіна, старшыня Мінгарвыканкама Мікалай Ладуцька на першамайскім мітынгу.**

## Гайдукевіч за ўвядзенне расійскага рубля

Лідар Ліберальна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч лічыць, што беларускі ўрад неабходна адправіць у адстаўку, правесці дэвальвацыю і ўвесці расійскі рубель.

Пра гэта шматразовы спарынг-партнёр Лукашэнкі на прэзідэнцкіх выбарах заявіў 29 красавіка ў Мінску на 13-м пазачарговым з’ездзе партыі, паведамляе БелаПАН.

Па словах Гайдукевіча, «трэба сказаць праўду: у краіне дэвальвацыя, сярэдні і малы бізнэс згортваецца». «Чаму ніхто ва ўрадзе не скажа праўду?» — заявіў ён.

Лідар ЛДП лічыць, што ў Беларусі неабходна ўводзіць расійскі рубель. На думку Гайдукевіча, страты суверэнітэту не трэба баяцца. «Наадварот, расійскі рубель дасць энерганосьбіты па ўнутрырасійскіх цэнах», — сказаў ён.

«Хопіць верыць у эканамічныя цуды. Усе цуды ў Расіі», — заявіў Гайдукевіч. Паводле яго слоў, Беларусь — «еўрапейская дзяржава, але ў нас карані ў Расіі».

Вось такую новую ролю выконвае Гайдукевіч: агітатара за зліццё з Расіяй.

**СМ**

# Крывавая кропка

Ліквідацыя бен Ладэна зменіць расклад сілаў у свеце.

У ліпені 2010 года, калі Беларусь заінтрыгавана глядзела «Хроснага Бацьку», пыльнымі вуліцамі Пешавара праехала белая «Судзукі». А за ёй — джып. І пасажыр джыпа запісаў яе нумар. У «Судзукі» сядзеў самы давераны кур’ер бен Ладэна. Некалькі месяцаў яе адсочвалі ўсе амерыканскія агенты ў Пакістане.

Праз восем месяцаў, яснай ночкай 2 мая, 79 амерыканскіх марпехаў на чатырох верталётах вылецелі ў кірунку пакістанскага горада Абатабад. Адзін з іх прызямліўся на даху, другія — у двары, абгароджаным чатырохметровымі сценамі, і каля яго. З выродлівага трохпавярховага дома, што амаль без вокнаў, пачалі страляць. Пачаўся штурм. Сярод пяці забітых быў адзін высокі барадаты чалавек. У галаву яму трапіла куля, і кроў заліла аблічча. Адзін з марпехаў шчоўкнуў забітага на фотаапарат і пераслаў фота аналітыкам, якія адразу ж забілі яго ў праграму апазнавання твараў.

Труп Асамы бен Ладэна зацягнулі ў верталёт і скінулі над акіянам, каб ніхто не пакланяўся яго магіле. Так чалавек, што арганізаваў найбольшыя тэракты ў гісторыі свету — толькі 11 верасня 2001 года ў Нью-Ёрку было 3000 ахвяраў, — прайграў сваю персанальную бітву з Захадам.

Рэйд быў вынікам дзесяцігоддзя працы амерыканскай разведкі. Допыты захопленых кіраўнікоў «Аль-Каіды» — арганізацыі, якая хацела, каб іслам апанаваў свет, — вяліся ў тым ліку ў сакрэтных турмах у Польшчы і Літве.



Кіраўніцтва ЗША назірае за аперацыяй па знішчэнні бен Ладэна ўжывую. Першы злева — віцэ-прэзідэнт Джо Байдэн, другі — прэзідэнт Барак Абама. Першы справа — міністр абароны Роберт Гейтс, другая — кіраўніца амерыканскай дыпламатыі Хілары Клінтан.

### У Сітуацыйным пакоі Белага Дома

Пасля некалькіх месяцаў спадарожнікавага сачэння за панылым дворыкам у Абатабадзе, слухання тэлефонаў і адсочвання руху кур’ераў было прынятае рашэнне пра рэйд на будынак. Аперацыі былі прысвечаны пяць пасяджэнняў Рады нацыянальнай бяспекі ЗША. Бамбардзіроўка была бяспройгрышным варыянтам. Але Абама хацеў стапрацэнтовай гарантыі, што вораг Амерыкі нумар 1 будзе знішчаны.

У нядзелю ўранку верталёты рушылі ў паветраную прастору Пакістана. У гэты момант Абама і ягоная каманда сабраліся ў Сітуацыйным пакоі Белага Дома, каб сачыць за сітуацыяй у рэжыме рэальнага часу. На маніторы перад імі быў дырэктар ЦРУ, што паведамляў пра ход аперацыі. Бен Ладэна называлі кодавым імем Geronimo.

Праз некалькі хвілін прагучала: «Geronimo EKIA». EKIA значыць Enemy Killed In Action. Вораг забіты ў баі — фармулёўка з вайсковай зводкі. У Сітуацыйным пакоі запанавала ціша. Яе перарваў голас Абамы: We got him. Мы злавілі яго.

Праз гадзіну Абама выступаў са зваротам, які транслявалі ўсе тэлеканалы ЗША: «Сёння я магу паведаміць народу Амерыкі і ўсяму свету аб тым, што ў ходзе аперацыі амерыканскіх спецслужбаў быў ліквідаваны Асама бен Ладэн, лідар «Аль-Каіды». Тэрарыст, датычны да смерці тысяч людзей — мужчын, жанчын і дзяцей». Узрушаныя амерыканцы запоўнілі плошчу перад Белым домам.



**Асама бен Ладэн**

нарадзіўся ў Саудаўскай Аравіі ў 1957 у багатай сям’і выхадцаў з Йемена. Ён быў 17-м з 52 дзяцей будаўнічага магната Махамеда бен Ладэна. Маці Усамы, дзясятая жонка яго бацькі, была вельмі веруючай мусульманкай. Ужо ў 16 гадоў бен Ладэн далучыўся да адной з фундаменталісцкіх груповак Саудаўскай Аравіі, некаторы час служыў у шарыяцкай паліцыі. Пад уражаннем ад уводу савецкіх войскаў у Афганістан ён адправіўся туды ваяваць. А «Аль-Каіду» ён заснаваў у 90-х — як закрытую групу радыкальных мусульман.

### Як забілі тэрарыста №1

Асама ўзначаліў спіс самых небяспечных ворагаў ЗША пасля тэрактаў 11 верасня 2001 года. Джордж Буш аб’явіў вайну «Аль-Каідзе» і яе лідару. Гэта стала адной з асноўных прычын уварвання амерыканцаў у Афганістан.

Нягледзячы на інтэнсіўнасць дзеянняў, амерыканцам спатрэбілася амаль дзесяць гадоў, каб знайсці свайго галоўнага ворага. Паводле словаў Абамы, аб меркаваным месцазнаходжанні бен Ладэна спецслужбам стала вядома ў жніўні 2010 года, а дакладна ў гэтым ЦРУ ўпэўнілася ў сакавіку 2011-га. Тады ж было прынятае рашэнне аб правядзенні спецаперацыі. Паводле крыніц у ЦРУ, знайсці «тэрарыста №1» удалося дзякуючы сачэнню за адным з ягоных кур’ераў. Спецслужбы ЗША «вялі» яго чатыры гады.

Уся спецаперацыя працягвалася 45 хвілін. У перастрэлцы Асама бен Ладэн быў забіты стрэлам у галаву. Акрамя бен Ладэна, у аперацыі загінуў сын тэрарыста, два ахоўнікі і жанчына, якая выконвала ролю «жывога шчыта». Яшчэ некалькі жанчын было паранена. Амерыканцы правялі тэст ДНК, які на 99,9% пацвердзіў, што забіты насамрэч бен Ладэн.

«Унікальнае збудаванне [у якім бен Ладэн хаваўся]. Чатырохметровыя сцены, над імі калючы дрот, двайныя браніраваныя вароты. Усё смецце з гэтага збудавання спальвалася на месцы, каб не пакідаць слядоў. Не было ні тэлефона, ні інтэрнэту», — распавёў аб схованцы Асамы бен Ладэна супрацоўнік ЦРУ. Цікава, што крэпасць бен Ладэна знаходзілася ўсяго за 700 метраў ад элітнай вайсковай вучэльні, прылеглыя да яе дамы насялялі пакістанскія афіцэры.

### Рэакцыя свету

Ліквідацыя амерыканцамі бен Ладэна выклікала бурную рэакцыю людзей у свеце.

Генеральны сакратар ААН Пан Гі Мун назваў яе паваротным пунктам у барацьбе з тэрарызмам. Па словах канцлеркі ФРГ Ангелы Меркель, амерыканская аперацыя — «вырашальны ўдар па «Аль-Каідзе». Расія расцаніла аперацыю як «сур’ёзны поспех» Злучаных Штатаў у барацьбе з міжнародным тэрарызмам. «Адплата непазбежна наганяе ўсіх тэрарыстаў», — гаворыцца ў заяве Крамля.

### Каго насамрэч забілі амерыканцы?

Усходазнаўца Сяргей Богдан лічыць, што і сам бен Ладэн, і «Аль-Каіда» даўно ператварыліся ў медыйны міф. Забіўшы «тэрарыста №1», Амерыка хутчэй паўплывае на свае адносіны з Пакістанам, чым на сусветны тэрарызм. «Рэальную ролю ён перастаў адыгрываць пасля 2003 года, калі амерыканцы ўсталявалі свой кантроль у Афганістане. Тое ж можна сказаць і пра саму арганізацыю. Яна не змагла існаваць без асновы ў выглядзе дзяржавы, хай сабе і такой нягеглай, як Афганістан», — лічыць С.Богдан.

Палітолаг дадае, што апошнія гады тэрарысты з самых розных краін эксплуатавалі брэнд «Аль-Каіды», карыстаючыся ім для таго, каб папулярызаваць сваю дзейнасць. «Аль-Каіды» як адзінай арганізацыі ўжо даўно няма. Адзінае, што ад яе засталося, — гэта вобраз самога Асамы бен Ладэна — барадатага дзядзькі з пячоры з аўтаматам «Калашнікава» за плячыма. Аднак для ЗША ліквідацыя «тэрарыста № 1» — гэта прыгожая, хай сабе і крывавая, кропка ў ранейшай палітыцы змагання з «воссю зла». Зараз Амерыка зможа праводзіць больш гнуткую палітыку, якая будзе заснаваная не толькі на грубай сіле. Адміністрацыя Абамы скончыла тое, што некалі пачаў Буш-малодшы. Гэта вялікая перамога ЗША ў рэгіёне», — мяркуе палітолаг.

### Што азначае для Беларусі?

Ліквідацыя асобы, якая стала сімвалам зла для ўсяго свету, дазволіць ЗША змяніць сваю палітыку ў розных рэгіёнах свету. Ці закрануць змены стаўленне да беларускіх уладаў? Палітолаг Дзяніс Мельянцоў лічыць, што не.

«Адна справа — ліквідацыя тэрарыстаў, а зусім іншая — адносіны з незалежнымі дзяржавамі. Ліквідацыя Асамы ніякім чынам не паўплывае на палітыку ЗША ў дачыненні да нашай краіны», — лічыць спадар Мельянцоў. Разам з тым, палітолаг дапускае, што вынікі ліквідацыі лідара «Аль-Каіды» ва ўнутрыпалітычным жыцці ЗША могуць мець наступствы і для Мінска. «Ліквідацыя бен Ладэна ўмацуе пазіцыі Абамы. Аднак вялікай розніцы ў падыходах да Беларусі паміж рэспубліканцамі і дэмакратамі няма», — зазначае палітолаг.

**Алесь Пілецкі, СГ**

# Дарафееў канчаткова звольніўся з АНТ



«На канале чакалі, што я сыду сам. А я ўсё не сыходзіў».

Ад 1 мая тэлевядучы Сяргей Дарафееў больш не працуе на АНТ. За апошнія чатыры месяцы ён ператварыўся з «першага твару» канала ў асобу, звальнення якой чакала кіраўніцтва.

«Мне было прапанавана напісаць заяву аб звальненні. Я яе напісаў», — расказвае Сяргей Дарафееў, каментуючы сітуацыю. Канчатковая фармулёўка — «па дамоўленасці абодвух бакоў». «Пасля таго як закрылі «Выбар», працаваць на канале з кожным днём для мяне было ўсё больш складана псіхалагічна, — прызнаецца вядучы. — Сам здзіўляюся, як пратрымаўся гэтыя чатыры месяцы. Як я зразумеў, на канале чакалі, што я сыду сам. А я ўсё не сыходзіў».

Нагадаем, пасля спецыяльнага выпуску ток-шоу «Выбар» 19 снежня, прысвечанага прэзідэнцкім выбарам у Беларусі, тэлевядучага Сяргея Дарафеева адправілі ў месячны адпачынак. Яму не даравалі шэрагу пытанняў да Лідзіі Ярмошынай. У выніку кіраўніца ЦВК дэманстратыўна пакінула студыю. Перадача выклікала асабістае незадавальненне Аляксандра Лукашэнкі, які назваў Дарафеева «хлопчыкам-журналістам, якога трэба паставіць на месца».

Тэлевядучы быў тэрмінова адпраўлены ў месячны адпачынак. У эфір ён больш не вярнуўся і працягваў займаць пасаду дырэктара дырэкцыі ранішняга вяшчання канала АНТ. Замест «Выбару», які ішоў у жывым эфіры, на канале з’явілася новае ток-шоу «Адкрыты фармат» у запісе. Вядучы Тэнгіз Думбадзэ — той самы журналіст, які паскардзіўся Лукашэнку на Дарафеева на паслявыбарчай прэс-канферэнцыі. І праз месяц заняў ягонае месца. Гледачы з сумам адзначаюць, што перадача стала нуднай і аднабаковай.

Чаму ж Дарафееў працягваў працаваць, калі ніхто не бачыў яго далейшых перспектыў на АНТ? «Я не аматар бразгаць дзвярыма. Лічу, што ўсе пытанні павінны вырашацца годна і без эмоцый. На той момант, узімку, быў упэўнены, што магу прынесці яшчэ шмат карысці эфіру — не як журналіст, а як прадзюсар», — кажа Дарафееў.

Тэлевядучы прызнаецца, што мае прапановы працы і ў Беларусі, і за мяжой. Але ніякай канкрэтыкі не дае — маўляў, паведамлю, калі будуць вядомыя факты.

Сыходзіць з прафесіі Дарафееў не збіраецца, як і назаўжды з’язджаць з Беларусі. «Усё, што адбываецца тут, мне неабыякава, і я вельмі хачу прысутнічаць у беларускай журналістыцы», — кажа ён.

**Яўген Васількоў**

# Аўтастопам ад Нью-Ёрка да мыса Горн
# Доўгая дарога да Сальвадора

Яны прыляцелі ў Нью-Ёрк у красавіку без цэнта ў кішэні. З сабой маюць спальнікі, лекі і табурэт, які прысягнулі паставіць на мысе Горн. А яшчэ гітару, скрыпку ды трубу, з дапамогай якіх зарабляюць па дарозе. За сем месяцаў яны прайшлі-праехалі аўтаспынам і пехадралам усе ЗША, Мексіку, цэнтральнаамерыканскія Гватэмалы і Гандурасы. «Наша Ніва» публікуе захапляльныя падарожныя дзённікі Аўгіні Манцэвіч. Трое беларусаў ладзяць аўтастоп праз абедзве Амерыкі. Гэта Кірыла Краўцоў — капітан каманды, фатограф, трубач. Гэта Аўгіня Манцэвіч — журналістка, скрыпачка, акрабатка і аўтарка гэтага дзённіка. Гэта Верасень — аператар, гітарыст.


Узбярэжжа каля Сальвадора. За спіной — шэсць тысяч кіламетраў бразільскіх дарог.

**Заканчэнне. Пачатак у №46, 47 за 2010, № 2—8 за 2011.**

Калі праз восем вельмі доўгіх дзён у балівійскіх джунглях мы апынуліся на мяжы з Бразіліяй, нас цяжка было б пазнаць нават роднай маці. З ног да галавы вымазаныя амазонскай чырвонай зямлёй, шчокі абпаленыя пад трапічным сонцам. Штохвіліну мы нахіляліся, каб пачухаць пачырванелыя ад укусаў камароў ногі. У заплечніках — ніводнай чыстай шмоткі.

На бліжэйшай будоўлі мы вымылі твары і накіраваліся да мяжы. Дзесяць балівіянаў — і мы на лодцы пераплываем раку, якая раздзяляе дзве краіны.

Зніклі джунглі, камары, дажджы і індзейцы. З'явіўся асфальт, кандыцыянеры ў крамах, у кожнай з якіх можна было расплачвацца банкаўскімі карткамі. Цэны ўзраслі разоў у пяць. Мы перасталі выглядаць багатымі «грынгамі», а сталі хутчэй беднымі «вагабундас» (валацугамі).

Пра тое, што ў Бразіліі няма аўтаспыну (ці «кароны», як тут кажуць), нам расказалі іншыя табурэтнікі, якія дабраліся сюды раней, каб рыхтаваць фестываль на супрацьлеглым баку краіны — у горадзе Сальвадор на беразе Атлантычнага акіяна. Адзінае, што можа дапамагчы, — дамаўляцца з кіроўцамі грузавікоў на стаянках.

«Поста» — так тут называюць стаянкі грузавікоў — стала нашым домам на наступныя дні. Мы падыходзілі да кожнага кіроўцы і пыталіся, ці едзе ён у наш бок.

...Да фестывалю ў Сальвадоры заставаліся чатыры дні. Даехаць аўтаспынам было ўжо нерэальна. Адзінае выйсце — аўтобус. Вырашылі скарыстацца парадай расійскіх табурэтнікаў. У кожным бразільскім горадзе ёсць міграцыйны офіс, сацыяльны работнік якога можа выпісаць бясплатны квіток.

У гарадской сацыяльнай службе нас уважліва выслухалі ды імгненна пачалі дапамагаць. Супрацоўнік Даніэль абзваньваў палітыкаў, мабільныя кампаніі, тэлеканалы. Але безвынікова. Палітыкі на канікулах, а іншым напляваць на валацужных музыкаў. «Заўтра раніцай прыедзе здымачная група з тэлебачання і зробіць пра вас сюжэт. Можа, хтосьці яго пабачыць і захоча дапамагчы». Аднак доўгачаканы мецэнат так і не з'явіўся.

За дзень да фестывалю мы выйшлі на трасу, вырашыўшы ўсё ж паспрабаваць аўтаспын. І ён запрацаваў! Нас узяла адна машына, потым другая, трэцяя. Мы паступова рухаліся на паўднёвы захад Бразіліі.

Кіроўца чарговага грузавіка высадзіў нас у маленькім гарадку ў штаце Мату Гросу ў забытым богам рэстаранчыку. Вакол — сотні кіламетраў плантацыяў соі, кукурузы, бавоўны. Руплівая гаспадыня запрасіла нас прысесці і сказала, што хутка падасць ежу.

— Давайце мы спачатку сыграем, — папрасілі мы.

— Не, спачатку паешце, потым сыграеце, — катэгарычна заявіла яна.

Хутка наведнікі рэстарана наперабой прасілі нас сыграць яшчэ, куплялі пачастункі і распытвалі пра далёкую і дзіўную Беларусь. А гаспадыня абзвоньвала знаёмых у пошуку спадарожнай машыны.

Машына так і не знайшлася. Але гаспадыня сказала: «Ёсць адзін сябра, які аплаціць вам квіткі на аўтобус да Куаябы». І сунула мне ў руку грошы. Аднак месца ў аўтобусе не знайшлося. А жанчына наадрэз адмовілася забіраць грошы назад. І мы зноў выйшлі на трасу.

Перад заходам сонца каля нас са свістам спыніўся новенькі «Фіят».

— Я за рулём ад чацвёртай раніцы. І вельмі хачу спаць. Таму і спыніўся вам, каб было з кім паразмаўляць, каб не заснуць.

Я падумала: «Чувак гоніць 180 і хоча спаць. Ніяк нельга даць яму заснуць».

Пасля гэтай паездкі мая партугальская значна палепшылася.

Калісьці мы перасякалі Амерыку ў самым вузкім яе месцы — Панамскім перашыйку. Там ад Ціхага акіяна да Атлантычнага можна даехаць за гадзіну. Цяпер мы перасякалі паўднёвы кантынент у самым шырокім месцы. Калі мы нарэшце дабраліся да Сальвадора, за спінаю было каля шасці тысячаў кіламетраў аўтаспыну па Бразіліі.

## Душок Бразіліі

Марсель з расійскай табурэтнай каманды казаў: «Калі вы не пабываеце ў штаце Баія, не кажыце, што былі ў Бразіліі. Баія — гэта «душа» краіны».

Зніклі багатыя будынкі, штораз трапляліся халупы; мясцовыя туляліся каля дарог, прадаючы садавіну ці іншую драбязу. А кіроўцы баяліся спыняцца. Амаль кожны мае ў загашніку гісторыю, як на яго ці ягонага сябра напалі са зброяй ды скралі груз.

Апагеем хаосу стаў Сальвадор. Ужо зацемна нас прывезлі ў адзін з раёнаў горада пад назвай Піры-Піры. Прастытуткі круцілі клубамі, пацаны прадавалі наркотыкі, з неба свяціў ліхтаром на зямлю паліцэйскі верталёт. Мы былі адзіныя белыя.

Бразілія ў лідарах па ўзроўні сацыяльнай няроўнасці. Адны зарабляюць па дзесяць тысяч даляраў у месяц, другія — усяго па дзве сотні. Цэны ж для ўсіх аднолькавыя. І не самыя танныя.

За сто кіламетраў да Рыа-дэ-Жанейра кіроўца фуры загадаў прыбраць нашы рэчы з верху кузава, патлумачыўшы, што там, куды мы едзем, небяспечна. Мы прапусцілі гэта міма вушэй і папрасілі кіроўцу ўсё ж давезці нас да Рыа, не зважаючы на ноч.

«Амаль прыехалі», — сказаў кіроўца і загадаў зачыніць танаваныя вокны машыны. Наступнае слова, якое мы пачулі ад нашага спадарожніка, — «фавэла». Чорт! За вокнамі бачым, як сярод трушчобаў і гораў смецця сядзіць моладзь бандыцкай знешнасці.

Жыхары фавэлаў — самых бедных бразільскіх раёнаў — у асноўным нашчадкі вызваленых чорных рабоў. Яны не плацяць за камунальныя паслугі. За іх гэта робяць астатнія бразільцы. У фавэлы не сунуцца нават паліцэйскія — такі тут узровень злачыннасці. Прыход паліцыі скончаецца перастрэлкай.

Мы спыніліся на базе, дзе дальнабоі выгружаюць фрукты. У пошуках начлегу выйшлі


Дарогі Патагоніі.

**Аўгіня Манцэвіч**

нар. у Вілейцы ў 1985. Журналістка, блогерка, пісьменніца. Пераможца конкурсу маладых літаратараў імя Уладзіміра Караткевіча ў 2005. Аўтарка кнігі «Графіка». Жыве ў Мінску. Дачка рэдактара «Рэгіянальнай газеты» Аляксандра Манцэвіча. Сястра журналісткі і паэткі Насты Манцэвіч.

**Верасень**

Нар. у Гомелі ў 1985. Скончыў Варшаўскі ўніверсітэт, факультэт геалогіі. Захапляецца фатаграфіяй. Меў персанальную выставу ў Нью-Ёрку. Муж Аўгіні Манцэвіч.

**Кірыла Краўцоў**

Нар. у Гомелі ў 1979. Фатограф. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, факультэт эканомікі. Дырэктар «Дызайнерскай студыі Кірылы Краўцова» ў Гомелі.

да маленькай паліцэйскай будкі пры дарозе. ...І выходзіць адтуль больш не хацелі. Праз некалькі гадзінаў добрыя паліцэйскія завезлі нас у бяспечны квартал Рыа, дзе нас сустрэлі шчаслівыя каўчсёрферы.

Аргенцінская амбасада ў гарадку Фос да Ігуасу, дзе мы планавалі зрабіць візы, узяла адпачынак з-за карнавалу, што якраз адбываўся ў Бразіліі. І мы завіслі на некалькі дзён. Фос да Ігуасу — горад, які знаходзіцца на мяжы трох краінаў. Нават дарожныя знакі тут паказваюць: налева — Аргенціна, проста — Парагвай. Межы краінаў праходзяць па двух рэчках: Парагвай і Ігуасу.

Пакуль мы тырчым у чаканні візы ў чарговую краіну і адшпільваем чарговыя 30—100 баксаў за новую наклейку ў пашпарт, расійскія табурэтнікі, якім не трэба віза ў Аргенціну, падарожнічаюць па гэтай краіне. Літоўцы Вайдзе ўвогуле не патрэбныя візы ні ў адну краіну Паўднёвай Амерыкі.

### Блізкая Аргенціна

Аргенціна — вельмі падобная да нашых краінаў. Асабліва яе паўночныя правінцыі. Заходзіш у сельскі аўтобус, а там за рулём Вася. Ну, такі наш-наш Вася. А на суседнім крэсле — баба Галя. Нашая-нашая такая. А вакол — сосны, драўляныя хаты, дзед едзе на калёсах. Такое спакойнае, размеранае жыццё, адрознае ад іншай Лацінскай Амерыкі.

Сюды з'ехала мноства эмігрантаў з Усходняй Еўропы. У гарадку Апосталес увогуле каля 40% насельніцтва з украінскімі каранямі. Праўда, большасць ужо ні слова не ведае паўкраінску.

Аднак у горадзе — і украінская царква, і украінскі клуб, і вуліца Тараса Шаўчэнкі.

Да Буэнас-Айрэса мы злавілі старэнькі мікрааўтобус з дзвярыма, прывязанымі вяроўкай, поўны растаманаў з дрэдамі. Весела і зручна размясціўшыся ў салоне, мы рушылі ў бок сталіцы Аргенціны.

Буэнас-Айрэс сустрэў нас сонейкам і ўсмешкамі. Тут жыццё спакойнае. Машыны не сігналяць штосекунды, людзі нібыта нікуды не спяшаюцца, а толькі сядзяць на траве ў парках і папіваюць матэ.

А якое тут метро! Старыя драўляныя вагоны. Каб расчыніць дзверы, трэба самому рассунуць іх рукамі. Шкло ў вокнах апушчанае, і вецер дзьме ў твар. На столі — старыя лямпы. На сценах — пачарнелыя ад часу люстэркі. А калі стаяць у першым вагоне, можна бачыць, як цягнік нясецца па тунэлі і набліжаецца да чарговай станцыі.

### Патагонія. На край свету

У Патагоніі адлегласці паміж гарадкамі — велічэзныя. Паміж імі — адны пампасы, ссохлая трава.

А ноччу пад колы аўтамабіляў выскокваюць сотні трусоў. Раніцай — уся дарога ў крыві. Паабапал пасуцца свавякі ламаў — гуанакі.

Шчыльнасць насельніцтва ў Патагоніі — усяго два чалавекі на кіламетр. Клімат непрыгодны для жыцця. Аднак здабыча нафты ўсё ж прымусіла некаторых амерыканцаў атабарыцца тут.

Раніцай мы выйшлі на трасу. Вецер прадзімае наскрозь. Выстаўляеш руку з пальцам, а яе зносіць назад.

Раптам дзесьці на гарызонце замаячыў знаёмы абрыс — «Жыгулі». Крэхчучы і кульгаючы, машына спынілася каля нас. Гэты аўтамабіль завязе нас на край свету — у самы паўднёвы горад Ушуаю. Неўзабаве дарога ўпёрлася ў ваду. Перад намі быў той самы праліў, па якім калісьці дзядзька Магелан аплываў Паўднёвую Амерыку. За пралівам — архіпелаг Вогненная Зямля. Пабачыўшы на востраве індзейцаў, якія сядзелі голымі, а грэліся толькі абмазваючыся тлушчам цюленяў і палячы вогнішчы, Магелан назваў гэтую зямлю Дымнаю. Потым яе перайменавалі ў Вогненную.

Калі паром перавёз нас на той бок, мы пабачылі сапраўдны агонь, які вывяргала зямля. Тут, на Т'ера дэль Фуэга, здабываюць газ. І ён, вырываючыся з недраў зямлі, становіцца вечным агнём.

Усяго на востраве — каля 250 тысяч жыхароў. Асноўны іх занятак — здабыча газу і жывёлагадоўля (гадуюць авечак і гуанакаў).

На «Жыгулях» мы так і не даехалі да Ушуаі трыццаць кіламетраў. У нас адвалілася кола.

Мы застопілі апошнюю ў гэтым падарожжы фуру і прыехалі ў самы паўднёвы горад планеты, на край свету.



Царква ва ўкраінскім стылі ў аргенцінскім горадзе Апосталес.



Часам даводзілася падарожнічаць у грузавіку з кавунамі.



Мы ўсталявалі наш зэдлік каля праліва Бігля.

**Факты пра Беларусь, якія ўражваюць іншаземцаў**

Ад Мексікі і да поўначы Аргенціны мы расказвалі, што ў Беларусі — чатыры сезоны: зіма, вясна, лета, восень. І тэмпература вагаецца прыкладна ад мінус 30 да плюс 30.

І ў розную пару года дзень у нас розная даўжыні. Летам можа цягнуцца 17 гадзінаў, а зімою сонца вызірае ўсяго на 7. Бо блізка ад Экватара кожны дзень сонца ўстае і сядае ў адзін і той жа час.

Дзівосы: у Беларусі няма ні мора, ні гораў. А самая высокая кропка — усяго 345 метраў.

Затое ў нас яблыкі таннейшыя за манга! Жыхары тропікаў толькі марыць могуць пра такое!

І бульба ў нас — кап'ё. Дарэчы, чаму ў Беларусі яе не ядуць разам з рысам у адной страве, для тутэйшых — загадка.

Пасля Экватара сталі ўсім расказваць, што ў нас іншыя зоркі ў небе. Поўнач вызначаюць па палярнай зорцы. (Тут Поўдзень вызначаюць па сузор'і Паўднёвы Крыж).

### Fin del Mundo, альбо Табурэт не патрэбны

Усё падарожжа мы спяшаліся, даганялі даты, выконвалі сцэнар. Але прыйшло ўсведамленне, што больш важна зразумець, чаго хочаш менавіта ты. І рабіць гэта. Заставацца там, дзе запрашаюць; ехаць туды, куды захацелася; быць з тымі людзьмі, з якімі хочаш. І табурэт для гэтых мэтаў непатрэбны. Але фінал у гэтай гісторыі ўсё ж павінен быць.

Так мы апынуліся на краі свету, адкуль не вядзе ніводная дарога — толькі тая, якая прывяла нас сюды.

Раніцай 17 красавіка надвор'е не заладзілася. Дождж змяняўся снегам. Але бліжэй да паўдня разьвіднелася. І снег на гарах ярка заблішчаў.

Сёння роўна год, як мы пакінулі дом і адправіліся ў Амерыку з табурэткай. Сёння табурэт памочыць свае ножкі.

На шляху да гэтага месца мы праехалі аўтаспынам і прайшлі пешшу каля 30 тысяч кіламетраў, пабывалі ў 14 краінах.

Мы ўсталявалі беларускі зэдлік на беразе праліва Бігля.

З-за сумных падзеяў у Беларусі нам было не да вялікіх подзвігаў. Зэдлік з гомельскай кухні застаўся з іншага боку планеты на краі свету. А мы — назад дадому. Пачаўся новы адлік.



Грамадзянінам Бразіліі можа стаць кожны чалавек.

**Бразілія**

найбольшая па плошчы (8 514 877 кв. км) і колькасці насельніцтва (больш за 201 млн) дзяржава ў Паўднёвай Амерыцы і адзіная — партугаламоўная. Дзяржава з найбольшым каталіцкім насельніцтвам свету. ВУП на душу насельніцтва (намінал) мае ўдвая большы за беларускі. Кіруе краінай прэзідэнт-жанчына Дылма Русеф.

**Аргенціна**

Дзяржава на поўдні Паўднёвай Амерыкі. Пры плошчы ў 2 780 403 кв.км мае ўсяго 40 млн насельніцтва.

Цягам ХХ ст. у Аргенціну пераехала вялікая колькасць эмігрантаў з Усходняй Еўропы, у тым ліку з Беларусі.

Па здабычы нафты займае чацвёртае месца ў Лацінскай Амерыцы, сама сябе забяспечвае. Уваходзіць у дзясятку краін з найбагацейшымі запасамі ўранавых рудаў.

# Аляксандр Баганёў:
## Хачу забыцца, што служыў у КДБ

Унікальны выпадак разглядаў Вярхоўны суд. Былы начальнік Фрунзенскага райаддзела КДБ Мінска Аляксандр Баганёў судзіцца з Камітэтам дзяржбяспекі.



**«Наша Ніва»: Чаму Вы судзіцеся з КДБ?**

**Аляксандр Баганёў:** У жніўні 2010 года мне закрылі выезд за мяжу, бо нібыта я валодаю звесткамі, якія ўтрымліваюць дзяржаўную таямніцу. Рашэнне было падпісанае намеснікам старшыні КДБ Віктарам Вягерам. Тройчы я звяртаўся ў Камітэт з пытаннямі, але не атрымаў аб'ектыўнага адказу. Восенню таго ж года я звярнуўся ў суд Цэнтральнага раёна Мінска, потым у Мінскі гарадскі суд, каб рашэнне было адмененае. Судовыя працэсы былі смешныя. Суддзі глядзелі на мяне, нібыта кажучы: «Чаго ты прыйшоў, усё адно нічога не вырашыш». У Вярхоўным судзе сядзелі манекены з каменнымі тварамі. Проста пакінулі рашэнне ў сіле. Зрэшты, іншага ў гэтай краіне я не чакаў.

**«НН»: Забарона на выезд — нестандартная працэдура для былых кадэбістаў Вашага ўзроўню?**

**АБ:** У сваіх знаёмых, якія ўсё яшчэ працуюць у КДБ, я спрабаваў даведацца падрабязнасці. Мне адказалі проста: «Уключаны адміністрацыйны рэсурс, і нічога з сістэмай ты не зробіш».

Я быў адным з найлепшых начальнікаў аддзелаў КДБ па Мінску, займаў гэтую пасаду дзесяць гадоў. У 2006 годзе са мной звальняліся яшчэ чатыры начальнікі, чаму больш нікому не закрылі выезд за мяжу? Няўжо я ведаю больш за ўсіх? Чаму мне забаранілі выезд пасля чатырох гадоў знаходжання на пенсіі? Я жыў за мяжой, у мяне там ёсць нейкая маёмасць, бізнэс. Я гэтага не хаваю.

Мне трэба ўсё гэта прайсці да канца. Гэтае прыніжэнне маіх правоў. Каб потым вольна гаварыць, што я пераследуюся ўладай за свае погляды. За тое, што я гавару, што жыву ў краіне, дзе на розных узроўнях гавораць няпраўду.

**«НН»: Як думаеце, за што Вас «пакаралі»?**

**АБ:** Што было фармальнай прычынай, я не ведаю. Але я думаю, гэта сталася пасля майго каментара па справах Святланы Байковай і Мікалая Аўтуховіча на тэлеканале «Белсат». Нічога лішняга я там не сказаў, толькі тое, што насамрэч можа мець месца ў нашай краіне. Наколькі мне вядома, потым КДБ спрабаваў пачаць супраць мяне крымінальную справу, але нешта там не выйшла. Вырашылі проста забараніць мне выезд з краіны, нічым гэта не матывуючы.

**«НН»: Вы нібы здзіўлена пра гэта гаворыце. Хіба ў часе Вашай службы такіх выпадкаў не бывала?**

**АБ:** Мяне ўражвае, як імкліва КДБ дэградуе. Яно ператварылася ў нейкую ахранку. Што чакаць ад структуры, калі былыя кіроўцы, прапаршчыкі становяцца начальнікамі. Мала прафесіяналаў. А хто застаўся, то проста адбывае нумар. Каб дабыць да пенсіі, пакласці сабе нейкі кавалак хлеба на пражыццё.

Ніякай адказнасці няма. Яны проста выконваюць каманды. А каманды гучаць з розных структур. Ёсць ААЦ (Аператыўна-аналітычны цэнтр пры прэзідэнце). У КДБ усе дрыжаць перад гэтай структурай. Яны могуць і прызначаць, і пераназначаць, і звальняць. Яны больш уплывовыя.

**«НН»: У Вашым выпадку мы маем справу з помстай?**

**АБ:** Так, гэта дробная помста. Яны не могуць мне даравацЬ, што чалавек з камітэта вылучыўся, выйшаў з ізхняга шэрагу, хоць я ніколі ў ім і не быў. Я працаваў па сумленні. У КДБ шмат накірункаў працы. Ёсць эканамічныя злачынствы, ёсць тэрарызм, наркабізнэс, карупцыя. Менавіта па гэтых кірунках я прыкладваў свае намаганні.

Мне ніхто не скажа, што ў раёне я прыгнятаў апазіцыю ці чыніў ім перашкоды. Я магу смела глядзець у вочы апазіцыі. Я не мог рабіць гэта па той прычыне, што добра ведаю, адкуль мой род, адкуль я выйшаў, хто мае сваякі. Мае дзяды і пра-дзеды былі расстраляны як ворагі народа. Я падымаў іх справы, глядзеў, што гэтыя людзі былі для свайго часу вельмі прагрэсіўнымі, граматнымі.

**«НН»: Вашы сваякі былі рэпрэсаваныя?**

**АБ:** Адзін мой дзед быў паватовым доктарам, другі — дырэктар марскога порта ў Ялце, прадзед — галоўны інжынер кіеўскага параходства, іншы — быў вядучым авіяканструктарам у Ілюшыне. Яны ўсе былі расстраляныя. Што гэта за ўлада была? Па гэтай прычыне я не мог займацца палітычным пераследам, бо мне было б вельмі балюча.

**«НН»: Не паверу, што Вы ніколі не займаліся справамі апазіцыі.**

**АБ:** Былі выпадкі, але я рабіў некаторыя рэчы, каб дапамагчы апазіцыю, каб пазбавіць яе баласту. Былі там людзі, што кампраметавалі апазіцыю, я іх адганяў адтуль як мух. Людзі, якія былі наркаманамі ці крадзяжамі займаліся. Для апазіцыі гэтыя людзі непрыстойныя, іх не трэ было туды дапускаць. Калі б іх злавілі, то ўлада магла гэта скарыстаць. Я лічу, што рабіў гэта правільна.

**«НН»: Пасля сыходу на пенсію як развіваліся ў Вас адносіны з КДБ?**

**АБ:** Я гэтую кантору абыходзіў бокам. Хацеў толькі забыцца, што там служыў. Скажу нават болей, што гэта нейкае наканаванне лёсу, што мне давялося паслужыць у КДБ. Я лічу, што гэта для таго, каб адчуць тыя жахі, што былі ў 1930-я. Я падымаў гэтыя матэрыялы. Нават у сталым веку мне было жахліва. Яны былі знішчаныя «тройкамі» ні за што. Я вельмі хацеў, каб усе гэтыя матэрыялы былі адкрытыя. Уладам трэба пакаяцца ў тым, што рабілася. Пакуль яшчэ жыве старэйшае пакаленне, яны б маглі гэта пачытаць, шмат чаго даведацца пра сваіх родных. Паказаць трэба для таго, каб больш нічога не паўтаралася.

**«НН»: Як Вы самі апынуліся ў КДБ?**

**АБ:** Я скончыў Чыгуначны ўніверсітэт у Гомелі. У той час КДБ пашырала свае паўнамоцтвы, ствараў структуры па аператыўным абслугоўванні транспарту. І трэба былі спецыялісты — інжынеры, механікі. На транспарце ёсць складаныя рэчы. Я быў мэтанакіравана туды адпраўлены. Працаваў на чыгунцы. Я браў удзел у выпрабаваннях баявых чыгуначных ракетных комплексаў.

**«НН»: Распад СССР прыспеў Вас у Расіі…**

**АБ:** Прызваўся ў КДБ СССР, потым служыў у КДБ РСФСР, потым — Агенцтва Федэральнай бяспекі, потым — Міністэрства бяспекі і ўнутраных справаў. Служыў у Соль-Ілецку Арэнбургскай вобласці. Там было звыш 60% немцаў. Савецкая ўлада выслала туды тагачасную «пятую калону». Спачатку немцы вельмі насцярожана да мяне ставіліся, а потым пасябравалі. Хаця маю грэх. Немцы спрабавалі выехаць за мяжу любымі шляхамі. І мяне прымушалі пісаць паперы, каб не дапусціць гэты выезд. Мабыць, сёння я за гэта разлічваюся. Гэта мой крыж. Калі ў мяне нейкае гора, то я заўсёды думаю, за што? Я хачу нагадаць і сённяшнім супрацоўнікам, што за ўсё давядзецца разлічвацца.

У 1994 годзе я вярнуўся на Радзіму, мне было цікава жыць у незалежнай краіне. Што здарылася ў той год, добра вядома. Усе мае планы рухнулі. Тым не менш, я не адчайваўся, рабіў, што мог. Шкоды не рабіў і не моцна так стараўся.

**«НН»: У КДБ шмат людзей, якія думаюць прыкладна як Вы?**

**АБ:** Працэнтаў трыццаць. Не так і мала. Гэта мае асабістыя заключэнні. Яны ўсе нечага баяцца. Нават патэлефанаваць мне. Баяцца, што ўсё праслухоўваюць. Сёння тэхнічныя сродкі гэта дазваляюць. Апазіцыянераў слухаюць усіх татальна.

У Камітэце вельмі шмат небеларусаў. Прыкладна раз у год збіраюць начальнікаў раённых аддзелаў КДБ. Дзесяці на такой сустрэчы я сказаў, што нешта не тое ў нас робіцца: усе генералы, апроч Мацкевіча і Сухарэнкі, — з Расіі. Я лічу, што гэта наёмнікі. Яны сёння працуюць тут, а заўтра з'едуць. Нам жа тут заставацца. Пасля гэтага ў мяне пачаліся шматлікія праверкі, прыдзіркі.

Асабліва гэта ўзмацнілася, калі ўпраўленне КДБ па Мінскай вобласці ўзначаліў Кузняцоў, які цяпер кіруе Інстытутам нацыянальнай бяспекі, таксама расіянін. Ён прайшоўся танкам па «Маладым фронце». І вельмі гэтым ганарыцца.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

# Уладзіміру Цэслеру — 60



Працы Уладзіміра Цэслера.



Штогод у дзень нараджэння ён разам з сябрамі выязджае на Мінскае мора.

30 красавіка 60 гадоў споўнілася вядомаму беларускаму мастаку, графіку Уладзіміру Цэслеру.

Уладзімір Цэслер нарадзіўся ў 1951 годзе ў Слуцку. Скончыў факультэт дызайну Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута, займаецца дызайнам, графікай, жывапісам. На працягу 25 гадоў супрацоўнічаў з Сяргеем Войчанкам (1955–2004). Іх сумесныя работы захоўваюцца ў найлепшых музеях свету, у тым ліку ў Луўры, але толькі нядаўна з'явіліся ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі.

Рэдакцыя «НН» далучаецца да віншаванняў.

**Зміцер Панкавец**



## Памерла пісьменніца Валянціна Коўтун

Сваё жыццё яна прысвяціла раманам пра Ефрасіннію Полацкую і Цётку.



30 красавіка ў Пінску на 66-м годзе жыцця памерла пісьменніца Валянціна Коўтун. Валянціна Коўтун (сапр. Валянціна Новік) нарадзілася 6 красавіка 1946 г. у вёсцы Дземяхі Рэчыцкага раёна Гомельскай вобласці ў сям'і настаўніка.

Так здарылася, што за сваё жыццё яна жыла ў самых розных канцах нашай вялікай Беларусі.

У 1963 г. скончыла Малоткавіцкую сярэднюю школу, працавала піянерважатай у Паршавіцкай (цяпер Бярозавіцкай) сярэдняй школе Пінскага раёна. У 1964 г. паступіла на філфак Львоўскага ўніверсітэта, а з 4 курса перавялася ў Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт (скончыла ў 1969). Працавала настаўніцай мовы і літаратуры Варнянскай сярэдняй школы Астравецкага раёна (1969–1970). Пасля яе літаратурны талент заўважылі ў Мінску, і яна доўгія гады адпрацавала ў розных выданнях і выдавецтвах.

За кнігу паэзіі «Метраном» (1986) яна атрымала прэмію імя Куляшова.

Апошнія дзесяцігоддзі яна шмат пісала пра дзвюх жанчын-суайчынніц: адну з першаасветніц Беларусі, княгіню Ефрасіннію Полацкую, і палымяную рэвалюцыянерку, адну з будзіцелек народа пачатку XX стагоддзя, Цётку. Ефрасінні быў прысвечаны раман-жыццё «Пакліканыя», а Цётцы — раман-дылогія «Крыж міласэрнасці».

Рэдакцыя выказвае свае спачуванні родным і блізкім пісьменніцы.

**СМ**

## У Рыме — беатыфікацыя Яна Паўла II

Прысутнічала і французская манашка, якая цудоўным чынам ацалілася ад хваробы Паркінсона дзякуючы гэтаму Папу.

Больш за мільён чалавек з'ехаліся ў Рым на беатыфікацыю Папы Яна Паўла II, які памёр шэсць гадоў таму. Цырымонію вёў пераемнік Яна Паўла II — Папа Бенедыкт XVI.

Беатыфікацыя ў каталіцтве — першая стадыя праслаўлення, пасля якой адбываецца далучэнне да ліку святых.

З Беларусі ў Рым на цырымонію таксама выехалі каля двухсот вернікаў і святароў. Увечары 1 мая ў базіліцы Санта Марыя Маджорэ прайшла імша для паломнікаў з Беларусі, якую правіў мітрапаліт Тадэвуш Кандрусевіч.

На беатыфікацыі прысутнічала і французская манашка Мары Сіманэ-Норман, якая цудоўным чынам ацалілася ад хваробы Паркінсона пасля малітвы Яну Паўлу II. Гэты цуд быў фармальнай падставай для беатыфікацыі.

Ян Павал II быў адным з самых уплывовых людзей XX стагоддзя. Сярод іншага, ён паскорыў развал савецкай сістэмы, у выніку якога Беларусь здабыла незалежнасць.

**СМ**

### З ПОШТЫ РЭДАКЦЫІ

#### У Мосары ўшанавалі Яна Паўла II

У Рыме 1 мая адбылася беатыфікацыя Яна Паўла II. Праслаўлялі Папу вернікі і ў вёсцы Мосар Віцебскай дыяцэзіі, дзе Яну Паўлу II стаіць невялікі помнік.

На працягу трох дзён (29 красавіка — 1 мая) вернікі ўдзельнічалі ў сустрэчах, якія наблізілі яго постаць і паглыбілі веды аб яго пантыфікаце. Кожны дзень пасля імшы і набажэнства каля помніка Яну Паўлу II мосарскія парафіяне мелі магчымасць паглядзець фільм «Караль — чалавек, які стаў Святым Айцом» італьянскага рэжысёра Джакама Баціяна.

1 мая ў Мосарскім касцёле прайшла ўрачыстая літургія падзякі за беатыфікацыю Вялікага Папы.

**Таццяна Ластоўская, Мосар**

## Стан здароўя палітолага Віталя Сіліцкага крытычны



2 мая яго даставілі з Бельгіі ў Беларусь.

З аэрапорта яго адразу на рэанімабілі перавезлі ў 1-ю клінічную бальніцу Мінска, бо без кіслароднай падушкі ён не дае рады дыхаць. Ён прыняў рашэнне вярнуцца ў Беларусь з Бельгіі, дзе праходзіў курс тэрапіі, пасля таго як стан здароўя стаў імкліва горшаць.

38-гадовы Віталь Сіліцкі ўжо працяглы час змагаецца з цяжкай хваробай.

З дапамогай Офіса за дэмакратычную Беларусь (Брусэль) ён нейкі час лекаваўся ў клініцы ў Брусэлі.

Віталь Сіліцкі — выдатны палітолаг. Ён доўгі час узначальваў Беларускі інстытут стратэгічных даследаванняў (BISS). Апошнім часам, з прычыны пагаршэння стану, ён зусім не з'яўляўся ў сваім блогу і Фэйсбуку.

**Сяргей Гезгала**

### ЗДАРЭННІ

## Выбух у жаночай саўне

Дзве жанчыны загінулі пры выбуху паравога катла ў Мінску.

28 красавіка ў сталічную службу выратавання паступіла паведамленне аб выбуху на тэрыторыі ЗАТ «Саўаўта-Мінск». Выбух адбыўся ў двухпавярховым цагляным будынку па вуліцы Алешава.

На першым паверсе размяшчаецца аўтамыйка, на другім — побытавыя памяшканні і фізкультурна-аздараўленчы цэнтр з лазняй. Першыя падраздзяленні сталічнага МНС прыбылі да месца здарэння праз дзве хвіліны. Як высветлілася на месцы, у лазні на другім паверсе будынка адбыўся выбух паравога катла, у выніку чаго абрынуліся канструкцыі на плошчы каля 30 кв.м. Пад заваламі апынуліся чатыры жанчыны і два мужчыны, якія ў момант выбуху знаходзіліся ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе.



Выратавальнікі дасталі з-пад завалаў усіх пацярпелых, у дзвюх з іх медыкі на месцы канстатавалі смерць. Чатыры асобы шпіталізаваныя з рознымі траўмамі. Яшчэ два чалавекі, якія знаходзіліся ў момант выбуху на другім паверсе будынка, самастойна выбраліся з-пад завалаў.

**СГ**

**Фота і відэарэпартажы здарэнняў глядзіце на nn.by.**

### Здарэнні сцісла

• **Мінчанін 35 раз прадаў адзін і той жа дом.** 32-гадовы жыхар сталіцы атрымаў на гэтым ад кліентаў $400 тыс. Дом пад Мінскам ён выставіў на продаж па заніжанай цане. На выгадную прапанову сталі адгукацца людзі, якія пад распіску перадавалі грошы гаспадару. Грошы ашуканец прайграваў у казіно. Затрымалі аферыста ў момант чарговай здзелкі.

• **Элітны бізнэс-клуб аказаўся бардэлем для абраных?** У Мінску спыненая дзейнасць клуба, пад шыльдай якога, як упэўненыя барацьбіты з арганізаванай злачыннасцю, працаваў VIP-бардэль. Распачатыя крымінальныя справы у дачыненні да шасці чалавек. Гэта дырэктары двух ТАА, заснавальнікі гэтых кампаній, а таксама дзве жыхаркі Мінска, якія афіцыйна лічацца непрацуючымі. Паводле дадзеных праваахоўных органаў, усе яны з лістапада 2010 года па красавік 2011 ладзілі ў Мінску закрытыя вечарынкі з аказаннем інтымных паслуг.

• **У Мінску затрыманы аўтазлодзей.** Пры сабе ён меў шрубоўку і спецыяльным чынам выгнутыя нажніцы для адкрыцця аўтамабільных замкоў. Злавіць злодзея ўдалося дзякуючы пільнасці грамадзян, якія паведамілі ў міліцыю, што каля іх дома падазроны мужчына зазірае ў вокны прыпаркаваных аўтамабіляў. Пакуль ехала міліцыя, ён паспеў скруціць з прыпаркаванай «маршруткі» касавы апарат. Затрыманы аказаўся 26-гадовым мінчуком, раней неаднаразова судзімым за крадзяжы.

• **Пад Смаргонню мужчына кінуўся пад цягнік.** Гэта здарылася ля вёскі Гаўці Смаргонскага раёна. Цягнік ехаў з Масквы ў Калінінград. Рабочыя чыгункі, якія ішлі на працу, бачылі момант здарэння. Яны расказалі, што спачатку стары мужчына сядзеў на рэйках. Калі поезд падышоў, пенсіянер кінуўся пад колы.

• **Мінскія лекары асуджаныя за хабар.** За здзяйсненне шэрагу службовых злачынстваў асуджаныя старшыня і лекары-эксперты спецыялізаванай анкалагічнай медыка-рэабілітацыйнай экспертнай камісіі УАЗ «Мінская гарадская МРЭК». Было выяўлена, што абвінавачваныя з ліпеня 2007 года па студзень 2010-га патрабавалі ў людзей, якія прыходзілі на агляд, грошы пад пагрозай няправільнага вызначэння групы інваліднасці і працоўнай рэкамендацыі, г.зн. вымагалі хабару.

**СМ**

## КАНЦЭРТЫ

**Лявон Вольскі і кампанія**

**12 мая ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** – Лявон Вольскі і кампанія. **Пачатак а 19-й.**

**«Срэбнае вяселле» і «Адыс Абеба»: дабрачынны канцэрт**

**6 мая ў «Рэкатары» (вул. Харужай, 29) а 18-й** — дабрачынны канцэрт «Дапамажы дзецям разам з намі». Бяруць удзел «Срэбнае вяселле», «Адыс Абеба», Botanic Project, «Петля пристрастия», «Касіяпея», «Нагуаль», The Silicon, «ПортМоне».

**«Тройца», Арлоў, Разанаў — канцэрт памяці ахвяраў тэракта**

**15 мая а 19-й у Loft-кафэ (вул. Броўкі, 22)** — дабрачынны канцэрт «Памяці ахвяраў тэракта ў мінскім метро 11 красавіка». Бяруць удзел The Outsides, этнатрыа «Тройца», Akana, Аляксандр Памідораў, пісьменнікі Уладзімір Арлоў, Алесь Разанаў, Віталь Рыжкоў.

**Трыб'ют «Ляпісаў»**

**7 мая а 16-й у R-Club (вул. Сурганава, 26)** — трыб'ют гурта «Ляпіс Трубяцкой». Бяруць удзел Re1ikt, «Не прислоняться the band», In Vino, Amaroka, Mushroom Band.

**Animal ДжаZ**

**4 траўня ў «Рэактары»** — Animal ДжаZ. **Пачатак а 18-й.**

**Madera Hard Blues**

**7 мая ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — Madera Hard Blues. **Пачатак а 18-й.**

**Канцэрт памяці Боба Марлі**

**11 мая ў «Мулен Руж»** — канцэрт памяці Боба Марлі. Бяруць удзел «Адыс Абеба», Botanic Project. **Пачатак а 19-й.**

**Hard Life/Heavy Music**

**13 мая ў «Рэактары»** — метал-шоу Hard Life/Heavy Music. **А 17-й — уваход, у 17.30 — пачатак.** Бяруць удзел Znich, Nightside Glance, Imprudence, Soulsides, Partyzone, Thelema.

## ІМПРЭЗЫ

**Дударскі фэст-2011**



**12 мая — канцэрт у Палацы ветэранаў (вул. Купалы, 21):** Essa (Беларусь), «Стары Ольса» (Беларусь), Litvintroll (Беларусь). **Пачатак у 19.00.**

**13 мая** — сольны канцэрт Hedningarna (Швецыя) **у Палацы ветэранаў. Пачатак у 19.00.**

**15 мая — канцэрт у клубе «Рэактар»:** Fidelius (Германія), «Стары Ольса» (Беларусь), Litvintroll (Беларусь), «Кашлаты Box» (Беларусь), Testamentum terrae (Беларусь). Спецыяльны госць — Open Folk (Польшча). Конкурс імправізацый з DJ Паўлам Балцэвічам. **Пачатак у 18.00.**

**Танцы**

**Шточацвер ад 19-й да 23-й у кавярні «Жар-птушка»** адбываюцца беларускія танцавальныя вечарынкі. Вучаць ойру, падэспан, полькі, і не толькі. Кавярня месціцца ў парку Горкага. Уваход каштуе 8 тысяч рублёў з носа.

## ВЫСТАВЫ

**Млын**

**Ад 11 да 15 мая ў Белэкспа на вул. Я.Купалы** — выстава-кірмаш народных промыслаў і рамёстваў «Млын». На выставе будуць прадстаўленыя ткацтва, кераміка, роспіс, вышыўка, разьба па дрэве, мазаіка і вітражы, кавальскія вырабы, мастацкія вырабы з меху і скуры…

**Выстава твораў Зігмара Польке**

**Да 14 мая ў Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва** праходзіць выстава твораў нямецкага мастака Зігмара Польке «Музыка нявысветленага паходжання» **(пр. Незалежнасці, 47).** У сваіх ранніх работах Польке абыгрывае трывіяльнае і банальнае, і гэтая гульня з павярхоўнасцю, са штампамі і клішэ прасочваецца ў творчасці мастака да апошніх дзён. Шаблоны ён бярэ з сумнёўных крыніц: пякарскіх буклетаў і непрымальных у мастацтве гламурных часопісаў і рэкламных брашур.

**Выстава выцінанкі**

**Да 4 чэрвеня ў мастацкай галерэі «Універсітэт культуры» (Кастрычніцкая пл., 1)** працуе выстава выцінанкі Надзеі Букі. Традыцыйнае мастацтва выцінанкі спалучаецца з сюррэалістычнымі вобразамі, непадуладнымі логіцы. Вожык на дне бутэлькі, панда з гузікам на пысе, мандарыны на снезе — частка свету мастачкі…

**Японская парцаляна**

**Да 31 мая ў Музеі гісторыі Мінска (вул. Рэвалюцыйная, 10)** працуе выстава «Японская парцаляна XVII — пачатку XX стст. у палацавым аздабленні». Выстава арганізаваная ў падтрымку горада-пабраціма Мінска — Сендая.

**Ван Дэйк і яго эпоха**

**У Гістарычным музеі (вул. Маркса, 12)** працуе выстава «Ван Дэйк і яго эпоха» са збору Гродзенскага гісторыка-археалагічнага музея. Выстава дэманструе творы графікі і жывапісу XVII —XVIII стст., аб'яднаныя жанрам партрэта. Асноўную частку экспазіцыі складаюць гравюры Антоніса ван Дэйка (1599–1641) — знакамітага фламандскага мастака XVII ст., вучня і паплечніка Рубенса. Творы гэтага фламандскага майстра таксама ёсць на выставе.

**Коміксы, манга & Co**

**У Мінску працуе выстава «Коміксы, манга & Co.»,** на якой прадстаўленыя спецыяльна адабраныя працы трынаццаці нямецкіх мастакоў у жанры комікса. Гэтая вандроўная выстава экспануецца **ў канферэнц-зале Інстытута імя Гётэ (вул. Харужай, 25).**

**Камічнае ў беларускай графіцы**

**У Мастацкім музеі (вул. Леніна, 20)** працуе выстава «Праз прызму ўсмешкі. Камічнае ў беларускай графіцы 1910—1990 гадоў». Аснову складаюць творы для часопіса «Вожык». Прадстаўленыя карыкатуры і сатырычныя малюнкі класікаў жанру: Анатоля і Сяргея Волкавых, Яўгенія Ганкіна, Грыгорыя Грамыкі, Мікалая Гурло, Віктара Ждана.

**Беларускі нацюрморт**

**Да 8 мая ў Палацы мастацтва (вул. Казлова, 3)** працуе выстава «Беларускі нацюрморт». Праект яб'ядноўвае аўтараў розных пакаленняў, сярод якіх В.Цвірка, М.Данцыг, Л.Шчамялёў, Г.Вашчанка, А.Кішчанка, М.Залозны, Б.Аракчэеў, В.Жоўтак, В.Савіч, М.Селяшчук.

**Парцаляна для каралёў**

**У Мастацкім музеі да 10 мая** працуе выстава фарфоравай мануфактуры Херэнда «Парцаляна для каралёў». На выставе можна ўбачыць дэкаратыўныя вазы, прадметы з чайнага, абедзеннага сервізаў з дэкорам «Птушкі Ротшыльдаў».

**Новае жыццё старадаўніх абразоў**

**У Мастацкім музеі да 22 мая** працуе выстава абразоў і алтарных карцін «Адкрыццё святой прыгажосці». На выставе экспануюцца 10 твораў тэмпернага і алейнага жывапісу XVII —XIX стст.

# «Ляпіс Трубяцкой» у Вільні



**«Ляпіс Трубяцкой» па запрашэнні Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта дасць канцэрт у Вільні 14 мая. Пасля забароны гурта ў Беларусі, Вільня — самы бліжэйшы горад ад Мінска, куды можна з'ездзіць на канцэрт «Ляпісаў» і быць упэўненым, што яго не адменяць у апошні момант з-за МНС або іншых паранармальных з'яваў. Вандроўка мае сэнс пры наяўнасці візы, канешне. Канцэрт пройдзе ў клубе Propagand» па адрасе v. M. Putino g. 5. Гэта побач з офісам ЕГУ. Пачатак у 19.00.**

**Перасоўныя выставы**

**У «Мабільнай галерэі» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі да 20 мая** працуе 31-я мастацкая выстава Таварыства перасоўных мастацкіх выставак. XXI стагоддзе. (Санкт-Пецярбург).

У Мінск выстава трапіла пасля доўгай вандроўкі па гарадах Еўропы. У экспазіцыі прадстаўлена каля 90 работ 36 жывапісцаў, графікаў і скульптараў з Масквы, Санкт-Пецярбурга, Самары і іншых гарадоў Расіі.

## ТЭАТРЫ

**4 мая**

**Оперы і балета** — «Бахчысарайскі фантан»
**Юнага гледача** — «Пан міністр»
**Купалаўскі** — «Самотны захад»

**5 мая**

**Юнага гледача** — «Вандраванне ў княства Сноў»
**Оперы і балета** — «Мадам Батэрфляй»

**6 мая**

**Юнага гледача** — «Шытая лялька Рэгедзі Эн»
**Оперы і балета** — «Лебядзінае возера»
**Купалаўскі** — «Хам»
**Беларускай драматургіі** — «Палёты з анёлам»

**7 мая**

**Юнага гледача** — «Дзюймовачка»
**Лялек** — «Васіліса Прыўкрасная»

**8 мая**

**Юнага гледача** — «Прыгоды Бібігона»
**Лялек** — «Піпі-Доўгаяпанчоха»

**10 мая**

**Оперы і балета** — «Эсмеральда»
**Беларуска драматургіі** — «Раман + Юлія»

**11 мая**

**Оперы і балета** — «Эсмеральда»
**Беларускай драматургіі** — «Жан і Беатрыса»

**12 мая**

**Оперы і балета** — «Чароўная флейта»
**Беларускай драматургіі** — «Сталіца Эраўнд»
**Оперы і балета** — «Шахеразада. Іспанскія мініяцюры»

**13 мая**

**Оперы і балета** — «Карміна Бурана. Кармэн-сюіта»
**Беларускай драматургіі** — «Нязваны госць»

**14 мая**

**Лялек** — «Марозка»
**Беларускай драматургіі** — «Гісторыя двух сабак»
**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Купалаўскі** — «Каханне ў стылі барока»
**Беларускай драматургіі** — «Адамавы жарты»

**15 мая**

**Юнага гледача** — «Кот у ботах»
**Лялек** — «Чароўная лямпа Аладзіна»
**Оперы і балета** — «Царамцерамок»
**Лялек** — «Чырвоны Каптурок»
**Оперы і балета** — «Кармэн»
**Купалаўскі** — «Translations»

## КІНО

### Тор



**Thor**
ЗША, 2011, каляровы, 130 хв, 3D
**Рэжысёр:** Кенэт Брана
**Ролі выконваюць:** Крыс Хемсварт, Наталі Портмэн, Энтані Хопкінс
**Жанр:** Комікс з героямі міфаў
**Адзнака:** 2 (з 10)

Зухаваты Тор, які сваімі бяздумнымі дзеяннямі паставіў Асгард на мяжу вайны, зрынуты сваім бацькам Одынам на Зямлю. Там ён сустракае прыгажуню…

Карціна Кенэта Браны — гламурны кінакомікс, персанажы якога пазычаныя са скандынаўскіх міфаў. Коміксам пра Тора — 70 гадоў; цяпер з'явілася і экранізацыя, на якую запрасілі вядомых актораў. Але стужка — марнаванне часу, нягледзячы на грымоты, метамарфозы і пазалочаныя дэкарацыі. Замест коміксавай бадзёрасці — імітацыя, замест дзівосаў — адладжаная індустрыя, і нават замест жывых ляпаў — банальнасці. А самае недаравальнае, што таленавіты рэжысёр Кенэт Брана анічым не выдае свайго кінамайстэрства.

**Андрэй Расінскі**

# Балельшчыкі засталіся дома з-за валютнага крызісу

Беларуская зборная па хакеі засталася на чэмпіянаце свету без падтрымкі з боку суайчыннікаў — турыстычныя кампаніі, якія займаліся арганізацыяй паездак у Славакію, пацярпелі фіяска. Галоўным вінаватым у зрыве паездак стаў валютны крызіс.

«Наколькі мне вядома, ніводнай турфірме не ўдалося сабраць аўтобус, — кажа Руслан Сегенюк, намеснік дырэктара кампаніі «Тусон Ваяж». — Мы яго таксама знялі: невялікая група нашых турыстаў паляціць у Славакію самалётам, яшчэ адна плануе паездку на мікрааўтобусе. У цэлым цікавасць з боку кліентаў была вельмі вялікая. Як ні было шкада, ім давялося адмовіць. Разлікі паміж юрыдычнымі асобамі праводзяцца па безналу і ў беларускіх рублях, а ў цяперашняй сітуацыі канвертаваць іх у валюту па курсе Нацбанка — задача нерэальная. Тым больш што славакам грошы трэба было пераводзіць вельмі хутка — літаральна на працягу 3–5 дзён. У выніку паехаць на чэмпіянат свету па хакеі змаглі толькі турысты, у якіх на руках была валюта, а таксама людзі, якія куплялі гэтыя туры загадзя».

«На хакейныя матчы ў Славакію мы распрацавалі 4 віды разнастайных праграм, — распавядае Святлана Галіноўская, якая працуе ў «Топ-Туры». — Як ні дзіўна, цікавасць да тураў была невялікая, у выніку паездкі забраніравалі ўсяго 5 чалавек. Сітуацыю маглі б выратаваць карпаратыўныя кліенты, але з-за валютных праблем і гэтая магчымасць, на жаль, была прапушчаная».

Чэмпіянат свету па хакеі з шайбай праходзіць у Славакіі з 29 красавіка па 15 мая ў гарадах Браціслава і Кошыцы. Беларускай зборнай у кваліфікацыйных матчах трапілі каманды з Канады, Швейцарыі і Францыі.

У той жа час вядома, што на хакейныя матчы з бел-чырвона-белымі сцягамі збіраюцца нашы суайчыннікі з Чэхіі і Славаччыны.

**Паводле tio.by**






## Білеты на Беларусь — Францыя будуць каштаваць да 70 тысяч

Беларускія футбалісты згуляюць з французскімі 3 чэрвеня.

Ад 25 красавіка ў касах мінскага стадыёна «Дынама» прадаюцца квіткі на матч адборачнага раўнда Еўра-2012 Беларусь — Францыя, які пройдзе 3 чэрвеня. Пачатак у 21.45.

**Кошт квіткоў па сектарах:**
Сектар 7 (дзіцячы) — 5 000.
Сектары 1-6, 8-28 — 20—70 000.

Пасля 5 тураў: Францыя — 12, Беларусь — 8, Албанія — 8, Боснія — 7 (4 гульні), Румынія — 5, Люксембург — 1.

У стартавым матчы ў групе 3 верасня зборная Беларусі выйграла на «Сэн-Дэні» ў Францыі з лікам 1:0.

**АГ**

КОЛЫ

## Як аб'ехаць затор на трасе «Брэст—Мінск»?

Кожныя выходныя на трасе М1 узнікаюць заторы. Яшчэ месяц будуць перакрыты дзве паласы руху на 308-м кіламетры гэтай дарогі (у раёне развязкі Узда—Негарэлае зараз будуецца падземны пешаходны пераход). У выніку мінчане, якія ў нядзелю ўвечары вяртаюцца ў сталіцу, вымушаныя стаяць гадзінамі ў чарзе на праезд. Якія меры збіраюцца прымаць у ДАІ?

Па сутнасці, будзе арганізаваны рэверсіўны рух. Аўтамабілі будуць ехаць па трох палосах (задзейнічаючы заасфальтаваную абочыну): дзве паласы ў адным кірунку, адна — у іншым. У залежнасці ад сітуацыі кірунак руху аднаго з шэрагаў будзе змяняцца.

Ёсць і аб'язныя маршруты. Напрыклад, можна выехаць на трасу Мінск—Гродна, потым звярнуць на дарогу Заслаўе—Дзяржынск, затым рухацца па дарогах Дзяржынск—Рубяжэвічы, Рубяжэвічы—Івянец, выехаць на трасу Івянец—Рубяжэвічы—Стоўбцы. Так трапляем на М1. Пакрыццё на гэтых дарогах асфальтабетоннае.

**ЯВ, паводле Onliner.by**

## Мапеды цяпер рэгіструюць

23 красавіка ў Беларусі пачалася рэгістрацыя мапедаў. Пастанова Савета міністраў № 443 ад 4 красавіка 2011 дазваляе да 1 жніўня зарэгістраваць і тыя мапеды, на якія ў гаспадароў адсутнічаюць дакументы. Гэта не дае права ставіць на ўлік самаробкі. Кожны транспартны сродак будзе агледжаны. Супрацоўнікі праверацць, ці ёсць на ім нумар завода вытворцы і заводская таблічка.

**БелТА**

### Абаранкі

Сапраўдная беларуская кухня

Тры літры мукі рашчыніць досыць моцна падсоленай летняй вадой, уліць 50 г дражджэй, няхай цеста падыдзе. Калі цеста падыдзе, моцна вымесіць і даць падысці паўторна, пасля чаго рабіць абаранкі, кідаць у кіпень, а потым вымаць тыя, што ўсплывуць наверх, і выкладаць на дошку. Пасля запячы ў печы, а калі падзякуцца — пераварачаць на другі бок.

Печ на абаранкі павінна з аднаго боку быць вымеценая, а жар трэба адгарнуць на другі бок.

**З кнігі Вінцэнты Завадскай «Кухарка літоўская», 1854.**
**Падрыхтавала НБ**



## «Белпошта» выпусціць маркі з замкамі Беларусі

Міністэрства сувязі і інфарматызацыі падтрымала прапанову ТБМ аб выпуску паштовых марак з выдарысамі замкаў Беларусі. Тры маркі будуць прысвечаныя Мірскаму, Лідскаму і Нясвіжскаму замкам.

Паводле слоў старшыні ТБМ Алега Трусава, дзяржаўная праграма «Замкі Беларусі» на 2012—2018 гады, што знаходзіцца на зацвярджэнні ва ўрадзе, прадугледжвае аднаўленне, кансервацыю, добраўпарадкаванне і ўключэнне ў сферу турызму 38 помнікаў беларускага абарончага дойлідства.

**БелаПАН**

## У Мінску будзе квартал, як у Амстэрдаме

Музейны квартал у сталіцы плануецца арганізаваць па аналогіі з Масквой, Амстэрдамам і Венай. Працы па яго стварэнні скончацца ў 2017 годзе.

Як распавяла прэс-сакратар Міністэрства культуры Ганна Смольская, музейны квартал будзе створаны на базе Нацыянальнага мастацкага музея па перыметры вуліц Кірава, Леніна і Маркса.

# Гоп-стоп тэлебачанне

**Крыміналітэт губляе рэйтынгавыя пазіцыі на экранах. Бандытаў і ментоў змяняюць... гопнікі. Пра іх цяпер здымаюць папулярныя серыялы і фільмы.**

Год таму з кожнага праса неслася песня пра тое, што «у нас на районе не звонЯт, а звОнят», якую спявае ўкраінскі дуэт Патап і Насця Каменскіх. У трохзвілінай кампазіцыі лёгка змясцілася сістэма жыццёвых поглядаў «гопніка»: ад прынцыповай асацыяльнасці ў інтэрнэце да стварэння сваёй мікратэрыторыі, якая носіць сакральную назву «раён».



**Тэрмін «гопнік»** з'явіўся яшчэ ў XIX ст. — так называлі вулічных рабаўнікоў. У цяперашнім сэнсе слова пачалі выкарыстоўваць на пачатку XX ст. для азначэння жыхароў пецярбургскага «Государственного Общества Презрения» — інтэрната для дробных хуліганаў і бяздомных. Пасля ў тым жа будынку адкрылася «Государственное Общежитие Пролетариата».

Ад пачатку жартоўная песня пераўтварылася ў хіт, які пачалі ўспрымаць сур'ёзна. Дайшло да таго, што пад гэтую песню на перадвыбарчым канцэрце на «Мінск-Арэне» танчыў Лукашэнка.

А тут яшчэ на тэлебачанні з'ўляецца расійскі серыял «Рэальныя пацаны». І ўсе кідаюцца яго глядзець — большасці проста цікава, гопнікі ў захапленні: драма з жыцця раёна. Няпростыя стасункі «на раёне» праз каханне галоўных герояў нагадваюць шэкспіраўскія драмы, памножаныя на лацінаамерыканскія серыялы.

Але гэта яшчэ не ўсё — у пракат выходзіць фільм Гары Бардзіна з назвай «Гоп-стоп». Хто будуць галоўныя героі, —тлумачыць лішне. Хаця сам рэжысёр у адным інтэрв'ю сказаў, што гопнікі ў яго будуць камічныя... Спачатку фільм увогуле мусіў быць пра інтэлігенцыю, але ў працэсе сюжэт пераварнуўся.

Чаму менавіта гопнікі раптам пачалі выклікаць цікавасць? Адукаванасць і культура не культывуюцца як базавыя каштоўнасці ў нашым грамадстве. З іншага боку, гопнікі ў кіно — куды больш сімпатычныя, чым у жыцці, і тое, што яны крадуць каналізацыйныя люкі і ўвесь час шукаюць дробныя грошы, на экране выглядае забаўна. Хаця суседа, які б прыносіў дахаты знятыя на суседняй вуліцы люкі, не хацеў бы сабе ніхто.

Праблема яшчэ і ў агульнай беднасці большасці людзей: гопнікі ў пошуках пары рублёў бліжэйшыя нам за мільянераў з класічных серыялаў — праблемы гопнікаў нам лепш зразумелыя. Дый гэта вялікі слой насельніцтва — тут нічога не паробіш, але калі раней на экран іх не бралі, то зараз іх там будзе шмат. Крымінальнікі, гопнікі... Цікава, хто будзе наступным? Зараз невядома, але наўрад ці гэта будуць філосафы ці эканамісты.

**Юрась Ускоў**

# Супрацоўнікі ДАІ перашкодзілі акцыі «Стоп-бензін-2»

Людзі хацелі арганізавана выехаць на цэнтральныя праспекты пратэставаць супраць шалёнага росту цэнаў.



PHOTO BYMEDIA.NET

Ад пачатку супрацоўнікі ДАІ чакалі ўдзельнікаў акцыі на трох аўтазапраўках, дзе меркаваўся збор. Яны забіралі правы ў кіроўцаў, якія мелі на лабавым шкле налепкі з сімволікай акцыі.

Арганізатара ж акцыі «Стоп-бензін» Арцёма Шаркова затрымаў спецназ. Яго пратрымалі ў міліцыі каля дзвюх гадзінаў.

Тым не менш, некалькі дзясяткаў аўтааматараў здолелі выехаць на праспект Незалежнасці, каб выказаць свой пратэст. На тратуарах за імі назіралі дзясяткі цікаўных і журналістаў.

Аўтааматары рухаліся з уключанай аварыйнай сігналізацыяй на невялікай хуткасці. Супрацоўнікі ДАІ ўпарта спынялі аўтамабілі з сімволікай акцыі і чорнымі стужкамі на антэнах. Тым не менш, групкі аўтамабілістаў здолелі даехаць да Акадэміі навук.

**Сяргей Гезгала**

# Вяселле года: Прынц Уільям і Кейт Мідлтан


DRUGOI.LIVEJOURNAL.COM
© REUTERS | published in drugoi.livejournal.com

**Галоўная свецкая падзея года адбылася. Брытанскі прынц Уільям і Кейт Мідлтан сталі мужам і жонкай. У лонданскім Вестмінстэрскім абацтве прысутнічала каля двух тысяч гасцей. Абрад вянчання здзейсніў духоўны кіраўнік Англіканскай царквы арцыбіскуп Кентэрберыйскі Роўэн Уільямс. Прынц Уільям — другі ў спісе прэтэндэнтаў на брытанскі трон. Прынцу Уільяму і Кейт Мідлтан прысвоеныя тытулы герцага і герцагіні Кембрыджскіх.**




**Адміністрацыя некаторых крамаў у сталіцы супакойвае наведнікаў.**




**Ісламісты пагражаюць забіць мусульманку Сылу Шахін, якая знялася для «Плэйбоя». Шахін стала першай мусульманкай, якая знялася аголенай для часопіса. Шахін 25 гадоў, яна турчанка, але жыве ў Нямеччыне. На ісламісцкіх форумах абмяркоўваецца, як пакараць тую, што «зганьбіла гонар мусульманкі». Маці актрысы таксама перарвала кантакты з дачкой і адмаўляецца ад кантактаў з прэсай.**

## Анекдоты

* * *

У адказ на прапанову ўвесці ў Беларусі расійскі рубель, беларускі ўрад прапанаваў Расіі ўвесці ў Беларусь амерыканскі даляр — у колькасці $3 млрд крэдыту.

* * *

Спецназавец Н. атрымаў на Плошчы гематому левай ягадзіцы. Экстрэмісты думалі, што гэта ягоная галава.

* * *

— Што вы робіце? Навошта франтон руйнуеце?! Хто загадаў?!

— Прэзідэнт жа загадаў ліквідаваць па ўсёй краіне пятую калону! Дык нам загадалі пятую калону знесці...

* * *

Урад абяцае чарговае паляпшэнне... Гэта палохае.

* * *

Адключылі гарачую ваду. Хачу памыцца. Стаўлю каструлю з вадой грэцца. Чакаю, калі закіпіць. Салю, кідаю лаўровы ліст, перчык. Лезу ў халадзільнік па пяльмені, і тут да мяне дайшло.

* * *

Сёння чорны кот сапсуціў мне дарогу... Тройчы плюнуў, пастаяў, падумаў і пайшоў у абыход...

* * *

—Дзед, а раскажы, як ты ў вайну два самалёты збіў!

— Ну-у-у... Не зусім збіў... Скажам так: недазаправіў!

* * *

Я хачу, каб у Беларусі былі грошы, як у Амерыцы. З рознымі прэзідэнтамі.

## «НН» сто гадоў з вамі

**У Марока (у Афрыцы) бедуіны паднялі паўстанне проці чужынцаў-французаў.** Францыя, каб абараніць сваіх падданых, пасылае ў Марока войска. Тым часам гэтай справай цікавяцца немцы. Здаецца, каму якая наўда мяшацца да справаў Францыі і Марока? Аднак немцы бачаць свой інтарэс, каб прычапіцца ў Афрыцы.

**«НН». № 17. 1911.**

**Камвольніцы мітынгавалі.** Стыхійны мітынг працаўніц камвольнага камбіната адбыўся 27 красавіка ў Мінску. 400 жанчын перакрылі рух на вул.Маякоўскага. Яны патрабавалі своечасовай выплаты заробку. Свайго дабіліся і пакуль супакоіліся.

**«НН». № 17. 2001**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
**галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:**
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).
сакратарка рэдакцыі Наста Бакшанская
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
**АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:**
**220050, Мінск, а/с 537**
**Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.**
**E-mail: nn@nn.by**
**On-line: www.nn.by**

Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая. 8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня РУП «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.
**Наклад 7260.** **Газета выдаецца 48 разоў на год.**
Нумар падпісаны ў друк 23.00 03.05.2011.
Замова №2075.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 1819-1614